НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 5 (794) 6 лютага 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Валадар World of Tanks Віктар Кіслы

На камп'ютарных інтэрнэт-гульнях ён зарабіў мільёны даляраў. Старонка 5.



## «Мая дзяўчына здавала мяне ў КДБ»

Галоўнае — быць чыстым і папрасаваным — гутарка з Франакам Вячоркам. Старонка 9.

# Вязень прыгажосці

Мадэльера **Сашу Варламава** на судзе трымаюць у клетцы, як сабачаня. **Старонка 7.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Палітыка

**«Не было ніякага Кастуся Каліноўскага»**

Прарасійскія сілы хацелі сарваць юбілей. **Старонка 3.**



### Тэлебачанне

**Аляксандр Аверкаў спрабаваў з'ехаць з Беларусі**

Яго заўважылі на кастынгу на расійскім ТБ. **Старонка 4.**



### Спорт

**Круты нораў Андрэя Касціцына**

Хакеіста адлічылі з нацыянальнай зборнай. **Старонка 8.**



### Каханне і сэкс

**Беларусы ў сэкс-шопе**

Якія інтымныя тавары найчасцей набываюць? **Старонка 15.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Міністр спорту «наехаў» на Герасіменю за бел-чырвона-белы сцяг

4 лютага ў Мінску міністр спорту і турызму Аляксандр Шамко на пасяджэнні калегіі ведамства выказаўся за ўзмацненне ідэалагічнай працы ў галіне. «Ідэалагічная праца з'яўляецца эфектыўным сродкам згуртавання сіл для дасягнення пастаўленай мэты», — сказаў Шамко.

Паводле яго слоў, тут патрабуюцца не толькі веды, але і «пэўны ўзровень асабістай культуры». Шамко паскардзіўся на тое, што праца ў гэтай сферы вядзецца фармальна і ад выпадку да выпадку, а некаторыя выказванні «нашых выхаванцаў» «з лёту падхопліваюць «свядомыя» так званыя».

Верагодна, міністр, які працаваў да восені ў МНС, меў на ўвазе Аляксандру Герасіменю, якая не так даўно заявіла, што, «з пункту гледжання эстэтыкі, бел-чырвона-белы сцяг больш «сімпатычны», чым чырвоназялёны».

Паказальна, што, па словах таго ж Шамко, толькі 38% беларускіх атлетаў, якія прэтэндавалі на алімпійскія медалі ў Лондане, змаглі рэалізаваць свой патэнцыял. У сувязі з гэтым дазволім сабе пагадзіцца з міністрам — але толькі ў частцы таго, што ідэалагічная праца сярод спартсменаў была пастаўлена дрэнна. Як паказвае прыклад Аляксандры Герасімені, якая прывезла з Лондана два «срэбры», калі б усе з такой сімпатыяй ставіліся да бел-чырвонабелага сцяга, то і вынікі ў зборнай Беларусі былі б вышэйшыя.

**Антон Карповіч, «Салідарнасць»**



**Шамко ўзнагароджвае Герасіменю за пермогу на чэмпіянаце свету.**



# Нацыянальная каштоўнасць стаяла ў далёкім куце

Адшуканы невядомы твор **Яна Дамеля**.

Унікальны абраз Святога Язэпа з Дзіцяткам Ісусам, створаны Янам Дамелем, адшукаўся ў Вішнеўскім касцёле (Смаргонскі раён). Твор славутага беларуска-польска-літоўскага мастака адшукаў гамяльчук родам з Вішнева Анатоль Шчучко.

Карціна памерам два на тры метры «стаяла ў далёкім куце, цалкам сцямнелая». Архіўныя дакументы раскрылі яе гісторыю. У касцёле былі два творы Дамеля: выявы Святога Тадэвуша і Святога Язэпа з Дзіцяткам Ісусам. Мастак стварыў іх у Вільні ў 1811.

Пасля паўстання Каліноўскага касцёл аддалі праваслаўным. Каталікі пабудавалі побач драўляны касцёл, куды трапіў абраз Святога Тадэвуша, але ў Першую сусветную згарэў разам з храмам. Абраз Святога Язэпа заставаўся недзе ў царкве. У 1920-я храм вярнулі каталікам і абраз павесілі над алтаром. Але з часам карціна пацямнела, яе знялі, яна тулілася пры сцяне...

Спадар Шчучко прывёз яе ў Гомель рэстаўраваць. У Ноч музеяў карціну выставяць у гомельскім палацы Румянцавых-Паскевічаў, а потым абраз зойме пачэснае месца над галоўным алтаром касцёла ў Вішневе.

Гэтая знаходка — вялікая падзея ў культурным жыцці краіны. Работы Дамеля захоўваюцца ў нацыянальных музеях Літвы і Польшчы. Да гэтага часу было вядома, што ў Беларусі ёсць толькі адна карціна Дамеля — абраз Святой Канстанцыі ў Нацыянальным мастацкім.

**СХ**

**Ян Дамель**

(1780—1840), славуты беларускі мастак, прафесар жывапісу. Пахаваны ў крыпце капліцы на Кальварыйскіх могілках Мінска. Ягоная знакамітая карціна называецца «Адыход французаў з Вільні» — гэта сапраўдная еўрапейская класіка!

**Акцыя**

## Кнігу Чарняўскага выдадуць грамадой

Міхась Чарняўскі памёр на 75-м годзе жыцця. Пасля смерці стала вядома пра ягоную апошнюю волю — перавыданне кнігі «Не бойцеся ахвяраў і пакут» пра героя антыбальшавіцкага паваеннага супраціву Расціслава Лапіцкага. Чарняўскі паспеў унесці праўкі, але на друк трэба сродкі. Выдаўцы прапануюць ажыццявіць выданне талакою, каб кніга выйшла да 40 дзён з дня смерці выбітнага беларуса. Увесь прыбытак ад кнігі пойдзе на помнік нябожчыку. Кожны, хто ахвяруе, атрымае кнігу Чарняўскага.

Звязацца з ініцыятарам перавыдання Алесем Мазанікам можна праз т.: (029) 757-58-67, праз электронную пошту: ales.mazanik@gmail.com ці праз скайп: ales_mazanik.




## Дзяўчына з прозвішчам Беларусь

У свеце фэнтэзі бывае ўсё, іранізуе газета «Рэспубліка»: у ЗША выйшаў першы раман з серыі пра дзяўчыну з прозвішчам Беларусь, якая павінна выратаваць Нью-Ёрк ад падкопаў таямнічай секты чараўнікоў. Цыкл называецца «Хронікі муляра», а твор, які адкрывае яго — «Алхімік». Аўтар эпапеі — амерыканскі пісьменнік Антон Страўт, публікуецца яна ў адным з выдавецтваў, якія належаць сусветна вядомаму дому «Пінгвін».

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу дакладна і разборліва назначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк»,
вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

**Сцісла**

**Пяройдзены эпідэмічны парог РВІ**

Па стане на аўторак эпідэмічны парог захворвання на вострыя рэспіраторныя інфекцыі перавышаны ў Мінску, Гродне, Магілёве, Баранавічах, Маладзечне, Салігорску і Барысаве. Медыкі заклікаюць да асцярожнасці і прафілактыкі: добра высыпацца, есці часнок і цыбулю і менш карыстацца грамадскім транспартам.

**Смелы ўчынак**

Білборд «Гэтая стабільнасць падобная да смерці» правісеў суткі ў цэнтры Мінска. Невядомыя размясцілі гэты вялізны надпіс паўзверх іншай рэкламнай афішы каля кінатэатра «Беларусь».

**Іран цалкам выдаліў лукашэнкаўцаў са здабычы нафты на радовішчы Джафэйр**

Рэалізацыя праекта па здабычы Беларуссю нафты на іранскім радовішчы Джафэйр поўнасцю спынена, паведаміў 5 лютага на прэс-канферэнцыі ў Мінску пасол Ірана ў Беларусі Махамад Рэза Сабуры. Паводле яго слоў, гэта рашэнне было прынята прыкладна паўтара года таму. «Праект больш не існуе, ніякія работы па ім не вядуцца». Як вынікае, бакі не сышліся ў падзеле даходаў.

**Адліга зацягнецца**

Цёплае надвор'е захаваецца цэлы тыдзень, прыкладна да аўторка 12 лютага, абяцаюць сіноптыкі.

**СГ**

**Рэкамендуем**

## Скандальны расійскі мільярдэр стане беларускім віцэ-прэм'ерам?

Пяць фактаў пра Дзмітрыя Мазепіна.

## Павел Харланчук чытае Каліноўскага

Відэа «Лістоў з-пад шыбеніцы».

**Чытайце і глядзіце на nn.by**

**Самае чытанае за 30 студзеня — 5 лютага**

1. Дразды. Царскае сяло — анонс
2. Міністр спорту «наехаў» на Герасіменю за бел-чырвона-белы сцяг
3. Расейская поп-зорка Ксенія Сабчак выйшла замуж за акцёра Максіма Вітаргана
4. Прэм'ер, які стаў ахвярай эратычнага розыгрышу, пакарае вінаватых — відэа
5. Аверкаў кідае АНТ і з'язджае ў Маскву? «Ніякі кастынг я не праходзіў»
6. «Двое ў швэдрах расійскага клуба прапанавалі мне за 500 іхніх рублёў спець гімн Расеі»
7. Саша Варламаў з'явіўся ў суд на мыліцах
8. «Трымаў мёртвае дзіця за ножку і біў аб падлогу»
9. Скандальны расійскі мільярдэр стане беларускім віцэ-прэм'ерам? Пяць фактаў пра Дзмітрыя Мазепіна
10. Юлія Сцяпанава. З'ехаць?

# «Не было ніякага Кастуся Каліноўскага»

**Прарасійскія сілы адчайна спрабавалі сарваць юбілей Кастуся Каліноўскага.**

Для гэтага яны спрабавалі сыграць на страху кіраўніцтва краіны перад самім словам «паўстанне».

2013 год — год 150-годдзя паўстання 1863 года і 175-годдзя Кастуся Каліноўскага. З'яўляюцца публікацыі, людзі запальваюць свечкі на магілах паўстанцаў, праходзяць імпрэзы памяці, агульнанацыянальная дыктоўка сёлета пішацца з «Мужыцкай праўды» і «Ліста з-пад шыбеніцы». У Літве і Польшчы юбілей паўстання адзначаецца ўвогуле на прэзідэнцкім узроўні.

Беларуская адміністрацыя актыўнага ўдзелу ў святкаванні не бярэ, але і не перашкаджае. «Белпошта» выпусціла паштоўкі ў гонар паўстання. Пасол Беларусі ў Польшчы Віктар Гайсёнак узяў удзел ва ўшанаванні паўстанцаў у Варшаве поплеч з прэзідэнтам Польшчы. «Советская Белоруссия» надрукавала, хай і сціплую, але без ацэнак, узгадку пра 175-гадовы юбілей Каліноўскага.

Нават Аляксандр Лукашэнка на прэс-канферэнцыі 15 студзеня сказаў: «Калі нам паступіць прапанова з польскага боку адзначыць юбілей паўстання, то чаму не?» Ніякіх словаў, што Каліноўскі не беларускі герой, чужы для нас, не было.

Не ўсім гэта падабаецца. Ёсць у краіне сілы, яшчэ больш прарасійскія за Лукашэнку, якім Каліноўскі муляе вока. Гэта гісторыкі і палітолагі, што гуртуюцца вакол сайтаў «Імперыя.бай» і «Рэгнум».

Аўтары гэтых выданняў стаяць на пазіцыях, блізкіх да заходнерусізму. Гэтая ідэалогія ўзнікла ў канцы XIX ст. на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Яе галоўная ідэя ў тым, што беларусы — гэта частка агульнарускага народа.

У пачатку XX ст. выходзілі «заходнерускія» газеты «Северо-Западная жизнь» і «Минское слово», з якімі вяла палеміку тагачасная «Наша Ніва».

Выпадак з Каліноўскім не першы, калі заходнерусы не задаволеныя трактоўкай гісторыі Беларусі. Летась шмат публікацый было накіравана на падзеі вайны 1812 года. У беларускай гістарыяграфіі склалася меркаванне, што тая вайна была хутчэй грамадзянскай, а не айчыннай, як лічаць расейцы. Незадаволенасць беларускай трактоўкай выказваў нават расейскі пасол Аляксандр Сурыкаў.

З юбілеем паўстання і Каліноўскага складаецца ўражанне, што на сайтах «Імперыя» і «Рэгнум» ёсць разнарадка, каб ні дня не праходзіла без узгадкі гэтых падзей. Прычым, падаецца ўсё ў выключна негатыўным святле. Ніякіх альтэрнатыўных поглядаў не падаецца, калі не лічыць выдуманыя, прыпісаныя Уладзіміру Арлову словы, што «беларусам трэба працягнуць барацьбу з маскалямі».

Працытуем некалькі самых адыёзных выказванняў заходнерускага крыла.




Такія магніты на лядоўню выпусцілі салігорскія футбольныя фанаты.

### «Здзіўляе пасіўнасць Праваслаўнай царквы»

Палітолаг, калумніст «Советской Белоруссии» Усевалад Шымаў заклапочаны тым, што Праваслаўная царква не праяўляе належнага інтарэсу да тэмы паўстання 1863—1864. Шымаў кажа, што не заклікае «анафемстваваць» Каліноўскага, але «заявіць аб недапушчальнасці гераізацыі падобнага персанажа ў пераважна праваслаўнай краіне, па-мойму, варта было б».

Варта адзначыць, што БПЦ сапраўды не выступала публічна з заявамі наконт Каліноўскага. Было некалькі чарнасоценскіх брашурак аб тых падзеях, выдадзеных пры асобных прыходах, але цэнтралізаванай пазіцыі — не.

### «Ненавідзеў беларускі народ»

Рэдактар «Беларускай думкі» Вадзім Гігін лічыць, што Каліноўскі не можа з'яўляцца нацыянальным героем Беларусі. «Якім жа чынам Каліноўскі, чалавек, які ў сваіх маніфестах і загадах называў беларусаў дурнымі авечкамі, параўноўваў іх з Юдам Іскарыётам і Каінам, якім чынам вось гэты чалавек, які глыбока ненавідзеў беларускі народ, які разгарнуў шырокі тэрор на тэрыторыі Беларусі і чыю фігуру па яе жахлівым водбліску можна параўнаць са знакамітым Нячаевым і нячаеўшчынай, вядомымі са знакамітых «Бесаў» Дастаеўскага, — якім жа чынам гэты чалавек раптам зрабіўся нацыянальным героем Беларусі?»

### «Падтрымалі не Каліноўскага, а цара»

Доктар гістарычных навук і аўтар шматлікіх падручнікаў Яўген Новік крытыкуе савецкіх гісторыкаў, якія назвалі паўстанне 1863-1864 «нацыянальна-вызвольным».

«Улады Беларусі дэманстратыўна не праводзяць ніякіх мерапрыемстваў, як і ў мінулым годзе, калі адзначаўся юбілей Айчыннай вайны 1812 года», — са скрухай адзначае сп.Новік.

Гісторык Аляксандр Бендзін заўважыў, што афіцыйны сайт Belarus.by таксама называе паўстанне 1863 года «нацыянальна-вызвольным». Бендзін пачаў трубіць, што ўладамі распаўсюджваецца «гістарычная фальшыўка».

Варта адзначыць, што Усевалад Шымаў рэкамендаваў ушаноўваць ахвяр паўстання.

«У 1863 беларусы падтрымалі цара-бацюшку, Расію. І тады беларускія сяляне былі за расійскі народ, і да гэтага часу так. Для беларусаў няма бліжэйшых людзей, так і цяпер. Таму зараз паміж Беларуссю і Расіяй такія цесныя сувязі», — напісаў Яўген Новік.

«Паўстанцы» займаліся адкрытым бандытызмам», — гэта ўжо словы Дзмітрыя Трафімовіча.

### «Ушаноўваць Мураўёва»

«Насамрэч ніякага дачынення да беларускага нацыяналізму і наогул беларускай ідэі Вікенцій Канстанцін Каліноўскі не меў. А чалавека пад імем Кастусь Каліноўскі наогул ніколі не існавала», — кажа звольнены віцебскі чыноўнік, старшыня арганізацыі «Рускі дом» Андрэй Герашчанка.

Даюцца словы і расейскім гісторыкам. «Калі да расейска-польскага супрацьстаяння прымазваюцца беларусы — гэта проста смешна», — кажа супрацоўнік Інстытута расійскай гісторыі Андрэй Марчукоў.

Дырэктар Інстытута краін СНД Ігар Шышкін заклікае часцей успамінаць «сваіх герояў — у першую чаргу Мураўёва», які быў накіраваны на задушэнне паўстання.

Аднак эфект ад такой хвалі «выкрывальных» матэрыялаў, здаецца, выйшаў адваротны. Усе вялікія беларускія грамадска-палітычныя інтэрнэт-парталы асвятлялі юбілей паўстання ў нацыянальным духу, з пазіцый Беларусі, а не Расіі. Tut.by, напрыклад, змясціў партрэт Каліноўскага на свой лагатып у дзень ягонага нара-джэння. Як бачым, «пятай калоне Расіі» не ўдаецца навязаць беларусам маскоўскі погляд на гісторыю.

**Зміцер Панкавец**

# Алесь Бяляцкі зноў вылучаны на Нобелеўскую прэмію

**Упершыню наш суайчыннік трапляе ў спіс кандыдатаў некалькі гадоў запар.**

Сярод іншых кандыдатаў на Нобелеўскую прэмію міру называюцца 15-гадовая пакістанская дзяўчына Малала Юсуфзай і расійская праваабаронца Людміла Аляксеева.

1 лютага сканчаецца тэрмін, калі Нобелеўскі камітэт прымае прапановы па кандыдатурах. Поўны спіс кандыдатаў традыцыйна застаецца закрытым. Афіцыйна апублікаваны ён можа быць толькі праз 50 гадоў. Колькасць кандыдатаў можа перавышаць 200 чалавек, як і летась.

Аднак тры імені сталі вядомыя загадзя. Два нарвежскія парламентары вылучылі старшыню Маскоўскай Хельсінкскай групы Людмілу Аляксееву і беларускага праваабаронцу Алеся Бяляцкага.

«Яны абое кінулі выклік аўтарытарным дзяржаўным структурам і незаконным злоўжываннем уладай», — сказаў адзін з парламентарыяў Ян Санэр.

Бяляцкага асудзілі на 4,5 года турмы строгага рэжыму нібыта за нясплату падаткаў. Насамрэч гаворка ішла пра грошы, якія ён збіраў на дапамогу рэпрэсаваным і пацярпелым. Таксама ён каардынаваў кампаніі назірання за выбарамі.



Бяляцкі застаецца зняволеным у Бабруйскай турме. Беларускія спецслужбы працягваюць кампанію па ачарненні яго і ягоных калег. Тым не менш, як бачым, гэта не задурыла галавы людзям.

**Мікола Бугай**

## Сцісла

### Якубовіч сыдзе з «Советской Белоруссии»?

Мяркуецца, што «СБ» стане штодзённым выданнем прыкладна на сто старонак з асобнымі сшыткамі па палітыцы, эканоміцы, фінансах, культуры. Прайшла інфармацыя, што Якубовіч адмаўляецца ягo ўзначаліць, спасылаецца на здароўе і ўзрост. Сярод імаверных наступнікаў называюць Усевалада Янчэўскага, Алега Праляскоўскага, Вадзіма Гігіна.

### Павел Лёгкі больш не прэс-сакратар Лукашэнкі

Цяпер ён будзе дарадцам у беларускім пасольстве ў Расіі. Лёгкі сказаў, што яму шкада пакідаць ранейшую працу, ён назваў яе ўнікальнай. Новы прэс-сакратар пакуль не прызначаны. « Сыходзіць трэба ў час. Я асабіста трымаюся такога правіла, хоць іншым яго не раю», — так адказаў сам Лёгкі на пытанне, чаму ён сыходзіць.

### Arche зноў адмовілі ў перарэгістрацыі

У снежні часопісу адмовілі першы раз: маўляў, заяўлены галоўны рэдактар Алесь Пашкевіч не адпавядае патрабаванням. Маецца на ўвазе пяцігадовы стаж працы на кіраўнічых пасадах адпаведнага профілю. Цяпер жа прэтэнзіі былі да працэдуры падачы дакументаў.

### Памёр першы старшыня Нацбанка Мікалай Амельяновіч

Яму было 75 гадоў, родам з Бярозаўскага раёна. 21 снежня 1990 года Вярхоўны Савет пастанавіў стварыць Нацбанк Беларускай ССР. Першым старшынёй праўлення Нацыянальнага банка якраз і стаў Мікалай Амельяновіч, ужо пасля яго прыйшоў Станіслаў Багданкевіч.

**ЗП, радыё «Свабода»**

# Замест беларускамоўнага канала — шлак?

8 лютага пачынае вяшчанне «Беларусь-3».

### Спорт ці культура?

Першыя размовы пра маштабныя пераўтварэнні ў структуры БТ пачаліся ўлетку 2011. Старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька вырашыў пакінуць сваё імя ў гісторыі.

Была выпрацавана новая стратэгія — ЛАД («Беларусь-2») зрабіць забаўляльна-спартыўным, а гісторыю і культуру вынесці ў фармат «Беларусь-3».

### Змена канцэпцыі канала

Паводле леташніх заяваў Генадзя Давыдзькі, «Беларусь-3» мусіў аб'яднаць увесь кантэнт, які падыходзіць пад вызначэнне «Спадчына». «У эфіры з'явяцца новыя праекты пра культуру, гісторыю, шэдэўры сусветнага кіно — і ўсё будзе толькі на беларускай мове», — паабяцаў Давыдзька.

Прайшоў год, і акцэнты трохі змяніліся. Цяпер галоўнай мэтай «Беларусь-3» называюць «асвятленне дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі ў галіне культурнага жыцця краіны».

Змянілася і моўная канцэпцыя. Замест 100% беларускай мовы засталося «каля 70%». «Мы не павінны забываць пра двухмоўе ў нас у краіне і пра дзве дзяржаўныя мовы. Аб'ектыўна гэты канал не можа быць толькі беларускамоўным», — тлумачыць дырэктар «Беларусь-3» Віктар Маючы.

Слоганам канала стане фраза «Каб любіць Беларусь».

### Кіраўніцтва

Узначаліў «Беларусь-3» менавіта Віктар Маючы. Дагэтуль ён працаваў у Міністэрстве інфармацыі ва ўпраўленні электронных СМІ. На многіх канферэнцыях Маючы выступае як начальнік аддзела Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта.

У Маючага дзве адукацыі — ён закончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1983) і Міжнародную акадэмію менеджменту (2005). Ад 1985 да 2006 года працаваў у структуры Белтэлерадыёкампаніі.

На пытанне «НН», ці свабодна ён валодае беларускай мовай, Маючы адказаў: «Валодаю». Анатоль Ярмоленка ўдакладніў, што заспеў той час, калі Маючы вёў моладзевую праграму «Крок» па-беларуску, і нагадаў, што беларускамоўныя праграмы Маючага на гомельскім тэлебачанні былі адзначаныя на розных конкурсах.

### Першы лічбавы канал Беларусі

«Канал «Беларусь-3» будзе толькі лічбавым», — тлумачыць Віктар Маючы. Гэта азначае, што ў так званы пераходны перыяд з аналагавай карцінкі на лічбу ён будзе даступны невялікай аўдыторыі.

У лічбавым варыянце ён займае месца прыватнага «8 канала». Для таго каб глядзець «Беларусь-3», трэба мець тэлевізар, які падтрымлівае DVB-T (большасць новых мадэляў), альбо ўсталёўваць спецыяльную прыстаўку. Мяркуецца, што гэтыя прыстаўкі будуць прапаноўвацца абанентам па даступнай цане ці ўвогуле ў бясплатную арэнду, але канчаткова гэтае пытанне не вырашана.

Злавіць жа «Беларусь-3» звычайнай антэнай у вёсцы не ўдасца. Аналагавай частаты ён не мае.




**Генеральны дырэктар «Беларусь-3» Віктар Маючы.**

### Што будзе ў эфіры?

Тое, якія перадачы будуць транслявацца ў першыя дні працы канала, ужо вядома. Гэта дакументальныя фільмы, праграмы «Размаўляем па-беларуску» і «Калыханка». Дарэчы, «Калыханка» павялічыцца ў часе да 20 хвілін, і стане штодзённай. Дагэтуль па выходных яе не паказвалі.

Колькасць перадач будзе павялічвацца, чакаецца, што на «Беларусь-3» пяройдуць «Благовест» і «Таямніцы душы». Апроч таго, будуць трансляваццца праграмы, аб'яднаныя ў наступныя рубрыкі: «Тэатр», «Кіно», «Літаратура», «Музыка», «Асобы», «Гісторыя», «Каляровы свет», «Прырода», «Традыцыі», «Дойлідства», «Навука», «Музеі».

Выглядае, што на «Беларусь-3» скідаюць тыя перадачы, якія непатрэбныя на двух вядучых тэлеканалах праз іх нізкія рэйтынгі. Канал меў бы поспех, каб на ім трансляваліся беларускамоўныя мультфільмы і дзіцячыя перадачы, спорт і ток-шоу па-беларуску, мастацкія фільмы. Пакуль жа гэтага няма і блізка.

**Ягор Марціновіч**

# Пяць фактаў пра Аляксандра Аверкава, які з АНТ хоча пераехаць у Маскву

Вядучы спрабаваў сябе на кастынгу Грамадскага тэлебачання Расіі.

«Аляксандр мае права ездзіць па розных краінах і ўдзельнічаць у розных кастынгах, — паведамілі пракаментавала сітуацыю прэс-служба АНТ. — Ён не абвяргае свайго ўдзелу, але не збіраецца сыходзіць з канала».

Мы сабралі некалькі фактаў пра аднаго з самых афіцыёзных тэлевядучых краіны.

### 1. Першы твар АНТ

Аверкаў нарадзіўся ў студзені 1960 года ў гарадку Аркадак Саратаўскай вобласці. Па адукацыі ён акцёр драматычнага тэатра і кіно — закончыў тэатральную вучэльню імя Шчэпкіна.

Падчас эфіраў «Контураў» часам здаецца, што ён перайгрывае — такімі ненатуральнымі выглядаюць некаторыя жэсты і пафасная інтанацыя.

Аверкаў з'явіўся на АНТ з першага дня працы канала. Першы выпуск «Нашых навінаў» пачаўся з ягоных словаў. Ён праанансаваў першы сюжэт — пра тое, што ў адным з дамоў Мінска адбылася ўцечка ртуці. Аўтарам гэтага матэрыялу была Кацярына Кібальчыч — цяперашняя карэспандэнтка расійскага Першага канала і аўтарка фільма пра Плошчу-2010.

«Нашы навіны» пачалі весці па чарзе чацвёра мужчындыктараў. Сяргей Савіцкі пратрымаўся ў эфіры АНТ да 2007. Цяпер ён вядзе спартыўныя навіны на СТБ. А вось Аляксандр Сярэбраннікаў і Яўген Лашкоўскі, як і Аверкаў, дагэтуль у эфіры «Нашых навінаў».

### 2. Агучваў Ваўка Вову

Аляксандр Аверкаў, хоць і нарадзіўся ў Расіі, але з тых вядучых, хто здольны падтрымаць размову на беларускай мове. Так зусім нядаўна госцем ягоных «Контураў» быў новы міністр культуры Барыс Святлоў. З госцем журналіст размаўляў па-беларуску.

Яшчэ да АНТ Аляксандр Аверкаў агучваў па-беларуску на БТ розныя спартовыя дакументальныя фільмы. Таксама голасам Аверкава гаварыў папулярны герой «Калыханкі» — Воўк Вова.

### 3. Заснавальнік «Белай Русі»

Аляксандр Аверкаў не вельмі імкнуўся захоўваць журналісцкі нейтралітэт. У чэрвені 2007 разам з паэтам Уладзімірам Карызнам, барацьбітом Аляксандрам Мядзведзем Аверкаў удзельнічаў ва ўстаноўчым сходзе мінскай арганізацыі «Белай Русі».



**Профіль Аверкава на сайце Грамадскага тэлебачання Расіі знік пасля таго, як пра гэта сталі пісаць СМІ.**

Аверкаў таксама з'яўляецца адным з любімых вядучых Аляксандра Лукашэнкі. У 2006 журналіст быў узнагароджаны медалём Францішка Скарыны, а ў 2010 атрымаў званне заслужанага дзеяча культуры. У той самы год Лукашэнка асабіста павіншаваў Аверкава з паўвекавым юбілеем. Потым вядучы, як сам прызнаваўся, «доўга не мог прыйсці ў сябе».

Аверкаў служыў верна. Падчас Плошчы-2010 ў эфіры АНТ ён перадаў: «Спецслужбы атрымалі інфармацыю, што ў двух аўтобусах апазіцыі знаходзяцца выбуховыя рэчывы і прыстасаванні. Пры спробе праверыць аўтобусы натоўп іх атачыў і накінуўся на супрацоўнікаў спецслужбаў».

Гэта, як вы зразумелі, пра зверскае збіццё кандыдата ў прэзідэнты Някляева і захоп ягонага гукаўзмацняльнага абсталявання. Выбуховыя рэчывы ніхто не знайшоў, вядома. Думаеце, Аверкаў прынёс у эфіры прабачэнні?

Варта таксама заўважыць, што ў «чорны спіс» Еўрасаюза вядучы не трапіў.

### 4. Лонданскі студэнт

Гэта цяпер Аверкаў сабраўся ў Маскву, а летась яго імя звязвалі з Лонданам. Брытанская ВНУ Magna Carta College Oxford уручыла гранты на навучанне ў Оксфардзе па праграме MBA вядомым беларускім персонам. Сярод іх былі двойчы срэбны прызёр лонданскай Алімпіяды Аляксандра Герасіменя і... Аляксандр Аверкаў.

Зрэшты, курс дыстанцыйны, таму пераязджаць у Лондан Аверкаву было не трэба.

### 5. Творчая сям'я

Жонка Анжаліка абараніла кандыдацкую дысертацыю па мастацтвазнаўстве ў галіне экранных мастацтваў.

А вось дачка Вольга, якая мае падвойнае прозвішча Аверкава-Літвінава, — тэлевядучая. Яе можна ўбачыць у прагнозах надвор'я на «РТР-Беларусь» і ВТВ. У анкеце Вольгі ў сацыяльных сетках пазначана, што яна бярэ ўдзел і ў праектах АНТ.

**Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец**

# Свет танкаў Віктара Кіслага

На камп'ютарных інтэрнэт-гульнях беларус зарабіў **мільёны даляраў**.



У рэалістычнай танкавай вайне ўдзельнічаюць 50 мільёнаў чалавек па ўсім свеце.

Тыдзень таму беларускі бізнэсовец Віктар Кіслы, які валодае папулярнай інтэрнэт-гульнёй «Свет танкаў», набыў амерыканскую кампанію Day 1 Studios за $20 мільёнаў. Некалькі месяцаў таму ён жа заплаціў $45 мільёнаў за аўстралійскую кампанію, якая распрацоўвае рухавічкі для яго гульні. І гэта, відавочна, не апошнія грошы мільянера. Сума гэтых дзвюх угодаў ненашмат меншая за кошт кантрольнага пакета акцый нашага вялікага завода «Амкадор» (чытай «Сціслa» ўнізе старонкі). Як можна на віртуальных танках зарабляць не менш, чым на рэальнай дарожнай тэхніцы?

### Прывязка падатковымі льготамі

Віктар Кіслы.

Віктар Кіслы — выпускнік фізічнага факультэта БДУ. У леташнім рэйтынгу самых уплывовых бізнэсоўцаў Беларусі ён знаходзіўся на 55-м месцы. Штаб-кватэра ягонай кампаніі Wargaming.net знаходзіцца ў афшорным Кіпры, аднак цэнтры распрацовак раскіданыя па ўсім свеце — ад Мінска і Санкт-Пецярбурга да Сінгапура. Беларускасць Кіслага добра выдае раскацістае фрыкатыўнае «г» у расейскамоўных інтэрв'ю.

Беларускае прадстаўніцтва кампаніі, адзін з асноўных офісаў, называецца «Гейм Стрым». Менавіта ў ім пры канцы 1990-х Кіслы і ягоныя кампаньёны пачыналі распрацоўку камп'ютарных гульняў. Першым адносным поспехам стала стратэгія «Аперацыя Баграціён», якая з'явілася ў 2007 годзе. У ёй рэканструяваліся вайсковыя дзеянні на тэрыторыі Беларусі ў 1943—1944.

У той час «Геймстрым» ужо лічыўся рэзідэнтам мінскага Парка высокіх тэхналогій — аднаго з самых прыбытковых праектаў лукашэнкаўскай эпохі. Беспрэцэдэнтныя падатковыя льготы дазваляюць праграмістам зарабляць вялікія грошы, вось толькі ў беларускі бюджэт ад гэтых даходаў трапляе мала што.

### Пераможныя танкі

У пачатку 2009 года заснавальнікі «Гейм Стрыма» робяць вызначальны выбар і скіроўваюць усе свае высілкі на распрацоўку анлайн-гульні World of Tanks («Свет танкаў»), таксама паводле матываў Другой сусветнай вайны. У свеце ў той час у модзе гульні пра троляў і оркаў, аднак беларусам удаецца знайсці і тых, каго больш цікавіць вайсковая тэхніка. У жніўні 2010 запрацавала расейскамоўная версія, а ў красавіку 2011 — англамоўная.

Колькасць зарэгістраваных удзельнікаў у World of Tanks ужо падбіраецца да 50 мільёнаў чалавек. «Танкам» належыць сусветны рэкорд — адначасова на адным серверы ў іх гулялі больш за 740 тысяч чалавек. Сама ж гульня трапіла на чэмпіянат свету па камп'ютарных гульнях.

Пераўтвараць такую колькасць фанатаў у рэальныя грошы складана, але магчыма. Кісламу гэта ўдаецца за кошт сістэмы платных бонусаў. Гуляць у танкі можна і бясплатна, але, каб хутчэй стаць моцным, прапануецца даплаціць.

### Новыя гарызонты

Поспех «танкаў» вывеў Кіслага на міжнародны ўзровень. Кампанія Wargaming.net стала сусветным брэндам, у яе прадстаўніцтвах працуе больш за 1500 чалавек.

«Свет танкаў» ахапіў большасць краін свету, уключна з Азіяй. Куды рухацца далей? Кіслы вырашыў пашыраць свой вайсковы сусвет. Разам з украінскімі распрацоўшчыкамі ён скончае падрыхтоўку гульні World of Warplanes («Свет вайсковых самалётаў»), а разам з расейцамі — World of Warships («Свет вайсковых караблёў»). Усё гэта камп'ютарныя інтэрнэт-праекты.

Нядаўна набытая Кіслым амерыканская кампанія раней спецыялізавалася на партаванні праграм з камп'ютараў на гульнявыя прыстаўкі. У Беларусі яны не надта папулярныя, але на Захадзе маюць шматмільённыя продажы. Па словах Кіслага, ён паспрабуе заваладаць і гэтым рынкам. Магчыма, ужо неўзабаве танкі, а пасля і самалёты з караблямі трапяць у новую рэальнасць.

Наперадзе бачны і рынак тэлефонаў. Экраны сучасных мабільнікаў сталі дастаткова вялікімі, каб адкрываць на іх паўнавартасныя гульні.

**Ягор Марціновіч**

## Сальда сыходзіць у глыбокі мінус

Прыкрыццё схемы растваральнікаў **пагражае нават крызісам** плацежнага балансу.

Поспехі першага паўгоддзя 2012, калі замежны гандаль прыносіў Беларусі па $300 мільёнаў у плюс штомесяц, аказаліся залежнымі ад рээкспарту расійскіх нафтапрадуктаў. Прыкрыццё схемы экспарту нафтапрадуктаў пад выглядам растваральнікаў прывяло да таго, што ад жніўня штомесяц краіна стала ў мінусе прыкладна на $500 мільёнаў, прычым з кожным месяцам гэта сума павялічваецца.

Выніковае сальда замежнага гандлю таварамі за 2012 год склала мінус $412,7 мільёна. Ад гэтай сумы трэба адняць яшчэ $3,85 мільярда, вернутых у расійскі бюджэт за ўмоўна бязмытную нафту. Гадавое сальда гандлю паслугамі ў Беларусі традыцыйна дадатнае. Яно яшчэ не падлічана, аднак, па папярэдніх падліках, складзе каля $2,75 мільярда. Такім чынам, беларуская эканоміка за год спрацавала на мінус $1,5 мільярда.

У 2012 годзе гэты мінус кампенсавалі замежныя крэдыты. Іншых выхадаў можа быць два: або продаж дзяржаўных прадпрыемстваў, або змена эканамічнай палітыкі.

**ЯМ**



Сальда вонкавага гандлю таварамі; у мільёнах даляраў па месяцах.

## Сціслa

### Заробкі дасягнулі рэкорду

Сярэдні заробак у Беларусі, па падліках Белстата, дасягнуў $554. У Мінску ж зарабляюць ужо па $734! Гэта гістарычны максімум. Ён быў дасягнуты за кошт вялікіх прэмій у снежні. У студзені звычайна заробак крыху змяншаецца.

### Дробным банкнотам засталося жыць месяц

1 сакавіка 2013 будзе спынены прыём банкнот наміналам 10 і 20 рублёў. У наступныя паўгода абмяняць дробныя грошы на банкноты большага наміналу можна будзе ў любым банку, а з 1 кастрычніка 2013 да 31 сакавіка 2014 — у аддзяленнях Нацбанка. Пасля грошы застанецца пакінуць у якасці сувеніраў альбо выкінуць як смецце.

### Кантрольны пакет акцый «Амкадора» прададзены

53,64% акцый кампаніі, якую ўзначальвае сенатар Аляксандр Шакуцін, каштавалі $76,5 мільёна. Столькі заплаціў наваполацкі «Інтэрсэрвіс», падкантрольны мясцоваму бізнэсоўцу Мікалаю Вараб'ю.

### Завод «Дыяніс» стаў «Бульбашом»

Завод вінаградных вінаў «Дыяніс», які знаходзіцца ў вёсцы Вендзелева Мінскага раёна, перайменаваны ў «Завод Бульбаш» — у гонар аднайменнай гарэлкі. Нягледзячы на абразлівае для беларусаў найменне, яна стала пазнавальным брэндам. Бізнэсам валодае 48-гадовы Сяргей Барок.

### Прадаюцца дзяржаўныя аблігацыі яшчэ на $50 мільёнаў

З 30 студзеня Міністэрства фінансаў рэалізуе ў аддзяленнях «Беларусбанка» трэці выпуск дзяржаўных аблігацый у замежнай валюце. Кошт кожнай складзе $1000. Грошы вернуць праз два гады, стаўка даходу складае 7%. Агулам разлічваецца прыцягнуць $50 мільёнаў.

### Банкі змяняюць назвы і ўласнікаў

«Міжнародны рэзервовы банк» цяпер будзе называцца «Еўрагандальінвестбанк». «Крэдэксбанк», які падазравалі ў адмыванні грошай, стаў «ІнтэрПэйБанкам». Змяніліся і яго акцыянеры — імі сталі расейцы. А іранскі «Анербанк» змяніў толькі ўласнікаў. Ён цяпер належыць іншым іранцам, што дазволіць зняць з банка санкцыі ЗША.

### Транспарт падаражэе да канца сакавіка

Кошт праезду ў гарадскім пасажырскім транспарце Мінска павялічыцца да 2000 рублёў. Услед звычайна павялічваюцца і тарыфы ў рэгіёнах.

**ЯМ**

# «Юрый Чыж заўсёды робіць гучныя заявы»

Спартыўныя журналісты Сяргей Новікаў і Максім Беразінскі разважаюць пра актуальныя падзеі **ў беларускім футболе**.

На тыдні выканкам Беларускай федэрацыі футбола прыняў два рэзанансныя рашэнні. У наступным сезоне чэмпіянат будзе разыгрывацца па схеме з дзяленнем на «шасцёркі». Пасля двух колаў першынства верхняя «шасцёрка» будзе змагацца за медалі і еўракубкі, ніжняя — за права застацца ў вышэйшай лізе.

Другое рашэнне — колькасць легіянераў у камандах чэмпіяната павялічаная з чатырох да пяці, а расейцы і казахі ўвогуле не будуць лічыцца чужымі. То бок чыста фармальна каманда можа абыходзіцца без ніводнага беларуса.

Звяртае на сябе ўвагу, што прайшлі зацвярджэнне рашэнні, якія лабіраваў уладальнік мінскага «Дынама» мільянер Юрый Чыж. Затое прапановы галоўнага трэнера барысаўскага БАТЭ Віктара Ганчарэнкі былі цалкам праігнараваныя. БАТЭ выступаў за пашырэнне эліты з 12 да 16 клубаў, а таксама за змяншэнне колькасці легіянераў. «Я хачу ў Еўропу, а для гэтага мне патрэбныя легіянеры», — казаў уладальнік «Трайпла».

«Калі ў кагосьці ёсць жаданне выводзіць тут нейкую тэндэнцыю, то калі ласка, але я б не спяшаўся», — кажа намеснік галоўнага рэдактара «Прессбола» Сяргей Новікаў.

«Я б не стаў гаварыць, што некаму выгадна, а камусьці — не. Мне здаецца, што выканкам БФФ разглядаў нязначныя пытанні, дэкаратыўныя, а шырэйшыя — напрыклад, як прыцягнуць людзей на стадыён, яны не абмяроўвалі», — дадае кіраўнік сайта goals.by Максім Беразінскі.

Па яго словах, метады па прыцягванні людзей добра вядомыя любому маркетолагу. «Прапаганда чэмпіянату, праца са СМІ, білборды. У нас у чэмпіянаце ўжо другі сезон гуляе Аляксандр Глеб. Чаму няма нідзе пра тое, якая крутая зорка побач з намі? Пазіцыя федэрацыі па меншай меры недальнабачная», — дадае Беразінскі.

Ці зможа нехта ў наступным сезоне ўсур'ёз прэтэндаваць на тое, каб забраць чэмпіёнскі тытул у БАТЭ? «Не думаю. Цяперашняя трансферная палітыка мінскага «Дынама» яшчэ больш правальная, чым летась. Каб на нешта прэтэндаваць, то трэба набываць легіянераў не горшых, чым Брэсан і Сіміч, якія былі ў БАТЭ», — гаворыць Новікаў. Беразінскі пагаджаецца: «Цалкам можа скласціся сітуацыя, калі БАТЭ забяспечыць сабе камфортную перавагу, нягледзячы на наваўвядзенні».

«Заявы Юрыя Аляксандравіча Чыжа заўсёды гучныя. Тым не менш, сітуацыя не мяняецца. Было шмат словаў, што ў «Дынама» прыедуць легіянеры з топчэмпіянатаў, і дзе яны?» — кажа кіраўнік goals.by.

Шмат гадоў паміж БАТЭ і «Дынама» існавала вусная дамоўленасць аб ненападзе. То бок гульцы з Мінска не пераходзілі ў Барысаў і наадварот. Цяпер жа ў стан каманды Юрыя Чыжа, мусіць, пярой-дзе скандальны брамнік Аляксандр Гутар. Дык можа гэта пачатак вайны паміж двума самымі амбіцыйнымі клубамі краіны?

«Колішні пераход трэнера Ігара Крывушэнкі ў «Дынама» быў нашмат больш сур'ёзным, чым цяпер Гутара. Для БАТЭ страта Гутара не настолькі вялікая. Можа ў наступным сезоне выстраліць запасны брамнік БАТЭ Шчарбакоў?» — гаворыць Новікаў.


Юрый Чыж «за».
СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Цікава, што ў першай палове дня, калі праходзіў выканкам БФФ, адбывалася нарада ў Лукашэнкі па спорце. Кіраўнік краіны патрабаваў, каб колькасць легіянераў у айчынных клубах паменшала. Па абедзе ж БФФ павялічыла квоту. «Я не перажываю, што рашэнне не супала з патрабаваннем прэзідэнта, мяне хвалюе, што прынятыя нормы не пойдуць на карысць нашага футбола», — зазначае Беразінскі.

«Перакананы, што ў выпадку павелічэння квоты на легіянераў колькасць імпартнага сэкандхэнду рэзка ўзрасце. Датычна расейцаў — тое ж самае. Пяць расейцаў другога эшалона ў камандзе — небяспечна ўтрая», — згаджаецца Сяргей Новікаў.

Перамены ў беларускім футболе саспелі. Аднак гэта яшчэ не рэвалюцыйная сітуацыя.

**Зміцер Панкавец**

# Прэцэдэнт: чалавека аштрафавалі на мільён рублёў за курэнне ў пад'ездзе

Спецыялісты расказалі, **як выяўляюцца і караюцца** парушальнікі «Правілаў карыстання жылымі памяшканнямі».

Суд Маскоўскага раёна Мінска пакараў штрафам 1 мільён рублёў жыхара сталіцы за курэнне ў пад'ездзе жылога дома. Гэта досыць рэдкі выпадак, хоць курэнне ў пад'ездах забаронена яшчэ ў 1999 годзе. Таму справа разглядалася публічна на выязным пасяджэнні ў гімназіі №12.

Намеснік дырэктара ЖРЭА Маскоўскага раёна Мінска па добраўпарадкаванні і санітарным утрыманні жылфонду Уладзімір Раманюк расказаў карэспандэнту «НН» пра тое, як выяўляюцца і караюцца парушальнікі «Правілаў карыстання жылымі памяшканнямі».

У жылым шматкватэрным доме паліць можна толькі ва ўласнай кватэры і на балконе. Курэнне на пляцоўках паміж паверхамі, у агульных тамбурах, ліфтах караецца штрафамі ад 10 да 30 базавых велічынь (ад 1 да 3 млн рублёў).

Кантроль за выкананнем правілаў карыстання жылымі памяшканнямі ўскладзены на супрацоўнікаў ЖЭСаў. Атрымаўшы сігнал ад суседзяў парушальнікаў (пісьмовы зварот або тэлефанаванне), яны сумесна з супрацоўнікамі міліцыі праводзяць па ўказаным адрасе рэйды. Для таго каб пакараць парушальніка, неабходна зафіксаваць у адміністрацыйным пратаколе сведчанні мінімум двух суседзяў. Калі вы здолелі сфатаграфаваць момант парушэння ці зафіксаваць яго на відэа — яшчэ лепш. Менавіта фотаздымак паслужыў доказам у выпадку з выязным судом у Маскоўскім раёне, кажа Уладзімір Раманюк. У судзе парушальнік прызнаў віну і дзякуючы гэтаму атрымаў меншы штраф.

Па словах У.Раманюка, жыхары раёна часта скардзяцца на пракураныя пад'езды, але да суда справа даходзіць вельмі рэдка — не любяць беларусы з суседзямі грызціся. Таму і ладзяцца падобныя публічныя слуханні, каб прыцягнуць увагу да праблемы. Папераджальныя надпісы ў пад'ездах пра забарону курэння і адказнасць за парушэнне правілаў рэгулярна абнаўляюцца, але многіх курцоў гэта не спыняе.

**Сямён Печанко**

**Дзе яшчэ нельга курыць**

Ва ўстановах аховы здароўя, культуры, адукацыі, спорту; на аб'ектах гандлю і бытавога абслугоўвання насельніцтва; на аб'ектах грамадскага харчавання (акрамя ўстановаў, што маюць спецыяльна абсталяваныя месцы для палення), у памяшканнях органаў дзяржкіравання, на ўсіх відах вакзалаў, у аэрапортах, падземных пераходах, на станцыях метро, ва ўсіх відах грамадскага транспарту.

**«Куру з суседам праз сцяну»**

Абмеркаванне навіны пра штраф за курэнне на сайце nn.by выявіла яшчэ адну праблему, на якую варта звярнуць увагу Мінжылкамгасу: няшчыльныя сцены ў панэльных дамах. Дым ад суседзяў-курцоў трапляе таксама праз разеткі ў сценах і сістэму вентыляцыі.

# Школьныя буфеты заменяць сасіскі ў цесце на карысныя піражкі

Школьны буфет павінен прапаноўваць дзецям карысныя прадукты, а не толькі прысмакі. Такое меркаванне падчас прэсканферэнцыі выказала загадчыца аддзялення гігіены дзяцей і падлеткаў Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Ала Малахава.

«Мы вырашылі развіваць буфеты з тым, каб яны прапаноўвалі дзецям больш карысных прадуктаў, папаўняючы дэфіцыт макра- і мікраэлементаў, вітамінаў і карысных рэчываў», — адзначыла Ала Малахава. У наяўнасці павінны быць сокі, малочныя і кісламалочныя прадукты, узбагачаныя мікраэлементамі; салаты са свежай гародніны, садавіна. І толькі на апошнім месцы — прысмакі, якіх па правілах павінна быць не больш за 10 найменняў.

«Аднак усё роўна, імкнучыся атрымліваць прыбытак, буфеты грашаць тымі прадуктамі, якія гігіеністам не хацелася б бачыць у школьным харчаванні. Гэта — сасіскі ў цесце, піцы, смажні», — прызнала загадчыца.

«Школы замяняюць такія некарысныя прадукты піражкамі з карысным начыннем — з капустай, курагой, яблыкамі: гэта ўсё ж лепш для дзяцей і карыстаецца ў іх попытам», — падкрэсліла яна.

**БелТА**

# Вязень прыгажосці

**Мадэльера Сашу Варламава абвінавачваюць адразу па пяці крымінальных артыкулах.**

У Мінску пачаўся гучны працэс Сашы Варламава. Знакаміты мадэльер быў затрыманы яшчэ ў маі 2011, аднак да суда справа дайшла амаль праз два гады. Доўгае следства налічыла 353 пацярпелых ад дзеянняў Варламава.

Знясіленага мадэльера судзяць у той самай зале і той самай клетцы, што і «тэрарыстаў» Канавалала і Кавалёва. За час следства здароўе Варламава істотна пагоршала. Казалі, што ў ізалятары ён спрабаваў зрабіць сабе смерць. Яму зрабілі чатыры аперацыі на хрыбце, пасля якіх мадэльер ходзіць з кіёчкам.

## У турме стаў інвалідам

Некалькі месяцаў таму мадэльеру была прызначана другая група інваліднасці. Нягледзячы на гэта, суд адмовіўся змяніць меру стрымання: маўляў, занадта цяжкае абвінавачванне. У другі дзень працэсу Варламаву стала кепска — спатрэбіўся ўкол, каб пасяджэнне магло прадоўжыцца.

У чым вінавацяць Варламава? Гэта ажно пяць крымінальных артыкулаў — ад махлярства ў асабліва буйным памеры да злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі. Матэрыялы справы налічваюць 147 тамоў.

Старшы памочнік пракурора Ленінскага раёна Павел Папкоў толькі пачаў зачытваць абвінавачанне. Напрыклад, на працягу 2004—2011 «Агенцтва моды Сашы Варламава» арганізоўвала платныя заняткі ў будынках БДУ і Ліцэя БДУ ды не плаціла за арэнду і камуналку. Мадэльер пярэчыць — у 2001 годзе ён заключыў дамову з тагачасным рэктарам БДУ Аляксандрам Казуліным. «БДУ аказвае матэрыяльную дапамогу «Агенцтву моды Сашы Варламава» і дае на бясплатнай аснове плошчы», — напісана ў дакуменце.

## Пытанне ў $140 тысячах

Працэс будзе працягвацца яшчэ доўга. Варламаву давядзецца адказаць і за махінацыі з сутачнымі, якія мусілі атрымліваць мадэлькі падчас замежных паказаў, і за няплату падаткаў.

Агульны памер «нанесенай дзяржаве шкоды», па меркаванні абвінаваўцы, склаў 1,2 мільярда рублёў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Адной клеткі мала, у ахову яшчэ паставілі трох міліцыянтаў.**

Варламаў віну не прызнае. Але нават калі б прызнаў і пагадзіўся кампенсаваць суму, названую следствам, ці вызвалілі б яго? Цяпер, пасля шэрагу дэвальвацый, гэта $140 тысяч — сума, якую б сябры мадэльера пры жаданні маглі сабраць.

Аднак многія бачаць у справе Сашы Варламава не толькі эканамічныя аспекты. Суд над знакамітым мадэльерам выклікаў актыўнае абмеркаванне ў інтэрнэце.

## «Ён што, людажэр?»

Многія абураныя абыходжаннем з вядомым чалавекам: «Ён што, людажэр і на людзей кідаецца, што яго ў клетцы трымаюць трое міліцыянтаў?» — піша адзін з наведвальнікаў форума onliner.by.

Расійскі канал «Дождь» таксама не падбіраў выразы: «Вядомага мадэльера пасадзілі ў клетку на сцэне, як сабачаня».

У мадэльным бізнэсе на вяршыню забіраюцца адзінкі. Астатнія так і застаюцца ў статусе тых, хто «падае надзеі». У гэтым некаторыя з іх вінавацяць Варламава.

«Гэты чалавек яшчэ ў 1990-я гады займаўся вывазам дзяўчынак пад выглядам танцорак за мяжу. У Югаславію падчас канфлікту ў той краіне пайшла не адна група дзяўчат. Там канфіскоўвалі пашпарты і дзяўчаткі адпрацоўвалі іх усімі шляхамі і метадамі... Некаторым усё ж удалося ўцячы адтуль праз Румынію», — пракаментаваў чытач onliner.by, жонка якога ў маладосці нібыта апынулася ў гэтым пекле. Прычым падобныя ўспаміны з'яўляліся ў розны час і на іншых сайтах.

Мяркуючы па стылі, каментары пакідалі розныя людзі. Аднак цяпер яны адмаўляюцца варушыць мінулае.

Зрэшты, калі гэтыя гісторыі і насамрэч адбываліся, Варламава судзяць не за іх.

## «Так, я гей»

Мадэльер да самагу арышту жыў нібыта разам з маці ў невялікай кватэры ў спальным раёне Мінска. Іншай маёмасці ў яго не было. Дзе тады гіганцкія скрадзеныя грошы? За некалькі дзён да арышту ён выступіў з адкрытым зваротам да Аляксандра Лукашэнкі, у якім заявіў, што ніколі не займаўся палітыкай і эканомікай, і расказаў пра свой гаротны стан: «Мне няма на што купляць прадукты, няма за што жыць ... Варламаў паміраё ад голаду. Цяпер на мяне разам звалілася велізарная колькасць праблем: аперацыя на хрыбце, здрада каханага чалавека. Я пражыў з ім дзевяць месяцаў, і ён заявіў, што заставаўся са мной толькі таму, што я плаціў яму. Так, я — гей. Але ж я і чалавек. Не ўяўляю цяпер, як жыць далей».

Варламаў быў адным з нямногіх, хто ўголас заяўляў пра сваю гомасэксуальную арыентацыю. Гэта, мякка сказаць, беларускім грамадствам не вітаецца.

Але дадзеная справа выглядае чыста эканамічнай і як такая павінна разглядацца.

**Ягор Марціновіч**

## Сцісла

### Снягір выйшаў на свабоду

Былы пракурор Міншчыны Снягір вызвалены з калоніі датэрмінова. Ён адседзеў амаль 4 гады. Снягір прыехаў у Мінск у канцы мінулага тыдня і ўжо стаў на ўлік у міліцыі па месцы жыхарства. Адказваць на пытанні журналістаў ён пакуль катэгарычна адмаўляецца. У 2010 годзе былога пракурора прызналі вінаватым у карупцыі і асудзілі да сямі гадоў турмы.

### Бяда з пярсцёнкамі

У Гомельскай вобласці двойчы за некалькі дзён дзяўчаты не маглі самі зняць заручальныя пярсцёнкі. Спатрэбілася дапамога работнікаў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і слясарны інструмент.

### Вёз цыгарэты, не давёз

Два аўтамабілі «Аўдзі» разбіты ўшчэнт, ад таго што адзін з іх праязджаў паварот на завялікай хуткасці. Два літоўцы сутыкнуліся 31 студзеня ў Астравецкім раёне каля вёскі Варона. Кіроўца «Аўдзі-100» не скінуў хуткасці перад невялікім закругленнем дарогі, паведамляе Алег Дук, старшы інспектар ДАІ Гродзенскага ГУУС. У выніку на мокрым асфальце яго павяло на сустрэчную Кіроўца «Аўдзі-А4», бачачы, як на яго нясецца аўтамабіль, стаў сыходзіць налева. Спрабаваў аб'ехаць яго па сустрэчцы. Дзякуючы ягонай добрай рэакцыі машыны не сутыкнуліся лоб у лоб. Аднак і цалкам размінуцца не ўдалося, машыны стукнуліся правымі бакамі і іх развярнула ў зваротных кірунках. Кіроўцу «Аўдзі-100» і пасажыра з пярэдняга сядзення «Аўдзі-А4» давялося шпіталізаваць. Дарэчы, пад абіўкай «Аўдзі-100» знайшлі пачкі цыгарэт. Відаць, жыхар Літвы падзарабляў кантрабандай.

### Пасадзілі ахоўнікаў гульнявога клуба, што збівалі кліентаў

5 лютага суд Мазырскага раёна вынес абвінаваўчыя прысуды ў дачыненні да намесніка дырэктара і двух ахоўнікаў аднаго з гульнявых клубаў Мазыра.

Як паведамілі БелаПАН у судзе, гэтыя асобы за хуліганства (арт. 339 КК) прысуджаныя да пазбаўлення волі на тэрмін ад трох да шасці гадоў. У аднаго з іх таксама былі знойдзеныя патроны, таму ён абвінавачаны і ў захоўванні боепрыпасаў (арт. 295 КК). У аднаго з кліентаў клуба пры збіцці знік залаты ланцужок, таму аднаму з ахоўнікаў выстаўлена абвінавачванне ў рабаванні (арт. 206 КК). Па справе праходзілі 20 пацярпелых і 70 сведак. Да чатырох сведак па іх просьбе былі прынятыя меры бяспекі.

Ахоўнікі збівалі кліентаў клуба, што кваліфікавана як хуліганскія дзеянні. У судзе падкрэслілі, што збівалі ахоўнікі кліентаў для застрашвання, а не з мэтай рабавання.

### У Пружанах ад менінгіту памёр хлопчык

Усяго з канца 2012 года ў краіне зарэгістравана 6 смяротных выпадкаў: пяцёра дзяцей і дарослы не перанеслі гэтай цяжкай хваробы. Яе ўсплёскі здараюцца перыядычна, раз на 3—4 гады. Медыкі нагадваюць, што бацькам трэба быць вельмі пільнымі, калі ў дзіцяці рэзка падскоквае тэмпература да 39—41 градуса.

**СГ; інф. «Еўрарадыё», «Гродзенская праўда», «Беларускі партызан»**

# Поп-зорка Ксенія Сабчак выйшла замуж за акцёра Максіма Вітаргана


Фатаграфаў на вяселлі не было, таму адзінае фота было зроблена на мабільнік.

**Маладыя пазнаёміліся на мітынгу расійскай апазіцыі.**

Пэўны час таму 31-гадовую Сабчак звязвалі цёплыя адносіны з лідарам апазіцыйнай моладзі Расіі Іллёй Яшыным. Паведамленне пра шлюб з 40-гадовым Вітарганам стала сюрпрызам для СМІ. Адносіны зоркі расійскага гламуру з акцёрам і рэжысёрам, сынам вядомага акцёра Эмануіла Вітаргана, пачаліся на мітынгах апазіцыі. І ён, і яна актыўна падтрымалі рух за перамены ў Расіі.

Сабчак здабыла вядомасць як тусоўшчыца. Але яна, акрамя таго, мае цудоўную адукацыю. Яна скончыла Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных адносін (МГІМО). Для яе гэта першы шлюб, для Вітаргана — трэці. Ён меў па адным дзіцяці ў кожнай папярэдняй сям'і.

Пра сваё вяселле маладыя не папярэджвалі. Яны сабралі гасцей проста на вечарынку і раптам з'явіліся перад імі ў вясельных строях. Адзінае фота гэтага моманту з'явілася ў «Твітары» сяброўкі Сабчак, спявачкі Глюкозы.

**Сямён Цыбульскі**

# Круты нораў Андрэя Касціцына

**Хакеіста адлічылі з нацыянальнай зборнай.**



У сувязі з няяўкай упрызначаны час на вучэбна-трэніровачны збор без уважлівых прычын са складу нацыянальнай каманды быў адлічаны Андрэй Касціцын.

Касціцын знаходзіўся ўжо два дні ў Беларусі, аднак не патлумачыў прычыны сваёй няяўкі і не паставіў у вядомасць трэнерскі штаб, паведамляе сайт Федэрацыі хакея. Менавіта таму трэнер Андрэй Скабелка прыняў такое непрывабнае рашэнне за некалькі сутак да пачатку алімпійскага адбору ў Даніі.

Нешта падобнае неаднакроць здаралася ў нацыянальнай зборнай па футболе. Прычыны адлічэнняў банальныя — гульцы завісалі ноччу на дыскатэках ці барах. Сам Касціцын не ідзе на кантакт з прэсай, не тлумачыць сваю пазіцыю.

28-гадовы наваполацкі атлет вядомы сваім крутым норавам. Летась увесну Андрэй разам з расейцам Радулавым трапіўся на п'янцы, за што быў адхілены ад гульняў «Нэшвіла».

Заакіянская прэса пісала, што ў Канадзе братоў Касціцыных утрымліваў не абы-хто, а вядомы наркабарон Паскуаль Маджола. Касціцыны не саромеліся тэлефанаваць Паскуалю, калі ім нешта трэба было — алкаголь, машыны, жанчыны і іншае.

Разам з тым, Андрэй Касціцын з'яўляецца адным з найбольш таленавітых айчынных хакеістаў. Ён шмат гадоў гуляў у НХЛ — наймацнейшай лізе свету. Праўда, за апошні год знізіў да сябе патрабаванні, пасля чаго апынуўся ў расійскім Чалябінску.

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**

**Прэм'ер-міністр Сербіі Івіца Дачыч стаў ахвярай эратычнага розыгрышу. Тэлевядучая вяла інтэрв'ю з палітыкам без сподняй бялізны. Прэм'ер загадаў правесці расследаванне і выявіць асоб, адказных за ўзнікненне няёмкай сітуацыі.**





**Камертон Сяргея Ваганава**

# Барыкады Хеопса

Я пачуў гэта на Камароўскім рынку, у радах, дзе ўзвышаюцца горы заморскай садавіны і гародніны. «Ды тут у вас сапраўдныя барыкады Хеопса!»

Бальзакаўскіх гадоў дамачка, рызыкуючы зламаць высачэзны абцас, намагалася ўручыць гандлярцы статысячную купюру, недастаючы да працягнутай насустрач рукі. З-пад густога макіяжу на правінцыйнай фізіяноміі прабіваўся меднаchырвоны загар. У Егіпце, мусіць, пабывала. («В Египете» — натыкнуўся днямі ў некалі паважанай буйной расійскай газеце.)

Я не вытрымаў, разрагатаўся.

Лепш бы прамаўчаў. Такой колькасці адборнай лаянкі ў свой адрас я не чуў за ўсё жыццё...

Да вечара эпізод забыўся. І, магчыма, забыўся б назаўсёды, каб не «Панорама!.. На Первом!»... Зразумела, можна было б і не глядзець, колькасць і якасць адборнай прапаганды добра вядомыя загадзя. Але набліжаліся 90-я ўгодкі БНР, вакол гэтай падзеі і таго, як яе адзначаць, разгарнуліся спрэчкі. І тут «салідныя людзі», якіх сабрала за «круглым сталом» «салідная газета», нечакана нарадзілі «сенсацыю»: дазволілі нарэшце БНР прысутнічаць у беларускай гісторыі, ды яшчэ ў якасці папярэдніцы незабыўнай БССР! Цікава стала, як абвесціць пра ўсё гэта «телевидение твоей страны»...

Абвясціла. Па звыклай завядзёнцы пайшло на вуліцу паслухаць так званы «глас народа». І, як заўсёды, пачула тое, што хацела: «народ» пра БНР нічога не ведае і — вось яно! — ведаць не хоча! Якое ж тут свята?! Які юбілей?! Якія шэсці з нацыянальнымі сцягамі?!

Замест таго каб засмуціцца правалам у нашай гістарычнай памяці, так і пёрла з экрана пачуццё глыбокага задавальнення. Прасцей сароміць «тупых янкі», якія не ведаюць, што Александрыя знаходзіцца не ў Егіпце, а недзе пад Шкловам, чым самім адчуваць сорам ад страты гістарычнай арыентацыі.

І што ж адбылося пасля таго выяўлення «народнай думкі»? Нагадаю: святочнае шэсце было жорстка разагнана. Пры абыякавасці і нават падтрымцы «народа». «А чаго лезуць?!» — рашуча рэзала рукой паветра суседка, вечная скаржніца на малую пенсію і хапуг з ЖЭСа, наглядзеўшыся рэпартажаў БТ...

У савецкія гады падпоркай рэпрэсіўнаму механізму з'яўляўся ваяўнічы атэізм.

Сёння ваяўнічае невуцтва — адна з самых угноеных ідэалагічных падпорак рэжыму.

Справа нават не ў «вершах Быкава» ці ў «Скарыну, што жыў у Пецярбургу»...

Справа ў тым, што дзяржава, калі яна насамрэч незалежная, павінна без ліслівай аглядкі на былую імперыю вызначаць падзеі і асобаў, якія крок за крокам — праз турмы і шыбеніцы,

## 95-годдзе БНР магло б прабіць дзірку ў гістарычным няведанні

праз узлёты духу і страты надзей, праз «сонца ў аконца» і «стрэльбы, хлопчыкі, бяры», праз Гулаг і «кожнага чацвёртага»... — да яе, гэтай незалежнасці, прывялі.

У грамадстве могуць быць розныя думкі наконт гістарычных падзей і асоб. Гэта цалкам натуральна, калі яны, гэтыя думкі, грунтуюцца на фактах, паважліва ставяцца адна да адной і не прыцягваюцца за вушы дзеля апраўдання палітыкі сучаснай улады.

У дзяржавы ж, якая насамрэч незалежная, такой раскошы — мець розныя думкі ці не мець аніводнай — няма. У незалежнай дзяржавы павінна быць адно стаўленне да вызначальных гістарычных падзей і асоб, якія гэтыя падзеі здзяйснялі — як да агульнанацыянальных, у тым ліку юбілеяў і святаў.

Сёння такой дзяржавы ў нас няма.

Пакуль праўладныя ідэолагі і палітолагі пужалі насельніцтва «палякам» і «тэрарыстам» Каліноўскім, дзяржава, па сутнасці, праігнаравала магчымасць пацвердзіць сваю прыхільнасць да незалежнасці і дэмакратыі, з набыццём каторых непарыўна звязана імя Каліноўскага. «СБ», галоўнае дзяржаўнае выданне, абмежавалася 2 лютага сціплым, на два-тры радкі, «аб'ектыўным», так бы мовіць, паведамленнем пра 150-годдзе з дня нараджэння «...публициста, поэта, революционера-демократа, одного из руководителей восстания 1863 — 1864 гг.» Між тым, у нумары за 1 лютага яна ж з бальшавіцкім размахам адзначыла 100-годдзе народзінаў Сяргея Прытыцкага, які сапраўды здзейсніў «за польскім часам» тэрарыстычную акцыю. Добра, што адзначыла. Але чаму такая няроўнасць?

Ці не таму, што стаўка на ваяўнічае невуцтва — асноўная ў змаганні з іншадумствам.

Хутка зноў будзе свята, ужо 95-я ўгодкі БНР — гераічнай і трагічнай спробы стварыць незалежную беларускую дзяржаву.

Каб наша сённяшняя дзяржава была насамрэч незалежнай, свята, безумоўна, было б дзяржаўным. Такое свята магло б стацца сапраўдным урокам нацыянальнай гісторыі, прабіць дзірку ў яе няведанні.

Не «круглыя сталы» з іх двухсэнсоўнай дыскусійнасцю, ды яшчэ з прысмакам палітычнай фальшывасці, вядуць да пазнання нацыянальнай Гісторыі, а яе арганічная прысутнасць у бягучым жыцці, у грамадскай атмасферы і свядомасці грамадзян.

Не адбудзецца так — будзем і надалей жыць на «барыкадах Хеопса».

*kamerton_41@mail.ru*

# Франак Вячорка: Мая дзяўчына здавала мяне ў КДБ

Гэты чалавек паспеў паспрабаваць сябе ў палітыцы, культуры і журналістыцы, ён пісаў пра каханне і войска, ён **стаяў на барыкадах з дзяцінства**. Жыццё зрабіла з яго «ўніверсальнага салдата». Франак Вячорка расказвае пра асабістае жыццё, сакрэты прывабнасці і беларускіх жанчын.




**Франак Вячорка**

Нарадзіўся ў 1988 у Мінску. Бацька — палітык Вінцук Вячорка, маці — заснавальніца рыцарскага клуба «Вялікае княства» Арына Вячорка (памерла ў 2012). Вучыўся ў Гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа і на журфаку БДУ, быў выключаны за палітычную дзейнасць. Служыў у войску (2009—2010). Цяпер працуе на радыё «Свабода» ў Празе.

Франак ветліва сустракае, дапамагае зняць куртку. Кожны жэст стрыманы і акуратны. Прыгожая мова і правільна пастаўлены голас. Адразу складаецца ўражанне, што чалавек ведае, як правільна сябе падаць.

**«Наша Ніва»: Франак, Вы даволі шмат часу праводзіце за мяжой, чаму?**

**Франак Вячорка:** Я вучуся ў Варшаўскім універсітэце, сёлета павінен абараніць дыплом, і таксама працую на радыё «Свабода» ў эфіры і на сайце, займаюся прамоцыяй і маркетынгам. Я не адчуваю, што жыву за мяжой. Я б увогуле з Мінска не выязджаў, каб не вучоба.

**«НН»: Ці можна за мяжой быць карысным для Беларусі?**

**ФВ:** Тое, што адбываецца за мяжой — усе гэтыя альтэрнатыўныя дамы, амбасады, Рады, якія ствараюцца ў эміграцыі, — яны ўсе карысныя, але дадатковыя. Калі не будзе руху ўнутры краіны — яны не будуць мець ніякага сэнсу. Мы павінны працаваць знутры краіны, пакуль ёсць такая магчымасць і пакуль на нас усіх не завялі крымінальныя справы.

**«НН»: А што з фільмам «Жыве Беларусь»?**

**ФВ:** Ён ужо трапіў у сусветную дыстрыбуцыю і з 19 красавіка будзе ў кінатэатрах Польшчы. Для беларусаў будуць паказы на польска-беларускім памежжы, пасля прэм'еры з’явіцца ў інтэрнэце, бо правамі на фільм валодаюць палякі і італьянцы. За гэты фільм яшчэ будзе хваля рэпрэсій. Лукашэнка не прабачыць гэты фільм ані аўтарам, ані акторам, ані палякам.

## У 6 гадоў я хадзіў са значком «Мой прэзідэнт — Пазняк»

**«НН»: Франак, а якое было Ваша дзяцінства, таксама ўсё ў змаганні?**

**ФВ:** Калі я быў малым, то хацеў стаць энтамолагам, банкірам ці хаця б паэтам. Коласаўскі ліцэй — гэта былі самыя светлыя часы: газета, самакіраванне, партызанская школа... У сям’і кожны чымсьці займаўся. Маці — рыцарскімі турнірамі. А з татам была палітычная дзейнасць: плошча, мітынгі, дэманстрацыі. Усё, што я памятаю са свайго дзяцінства, гэта як мы рабілі імпрэзы ў школе і ляпілі налепкі. У 6 гадоў я хадзіў са значком «Мой прэзідэнт — Пазняк». Не было такога, што мы бесклапотна каталіся на горках. Аднойчы мне падарылі скейт, але яго скралі ў той жа дзень хлопцы са двара.

**«НН»: У Вас бывае хоць адзін дзень, калі Вы не думаеце пра Беларусь і яе лёс?**

**ФВ:** Час ляціць хутка, і як казаў Чэрчыль: «Важна пакінуць след». Добра, калі мне было 19—20 гадоў, то я мог паразважаць пра каханне і сэкс на старонках «Нашай Нівы». Але калі табе становіцца 24, самы час — засяродзіцца на істотным.

Палітыка сама нахлынвае на цябе. Нават асабістыя адносіны праходзяць праз прызму палітыкі. Я не магу ўявіць, што ў мяне будзе дзяўчына, якая палітычна не будзе згаджацца са мной.

**«НН»: Якія ахвяры нясе чалавек, які звязвае сваё жыццё з палітыкай?**

**ФВ:** Гэта дробязь, а не ахвяры. Праз што прайшлі паўстанцы 1863, інтэлігенцыя ў 1930-я, Лапіцкі з кампаніяй — тады яны рызыкавалі жыццём за свабоду... Мы ж, максімум, можам трапіць пад дубінкі, у горшым выпадку — за краты ці ў эміграцыю. Я прайшоў праз спектр рэпрэсіяў: шматкроць сядзеў, быў біты спецназам, выключаны з БДУ, 15 месяцаў псіхалагічных катаванняў у войску, як вынік — падкошанае здароўе, няскончаная адукацыя і страчанае дзяцінства.

## Я шматстаночнік на ніве Бацькаўшчыны

**«НН»: Можаце адказаць на пытанне: хто ёсць Вы?**

**ФВ:** Я шматстаночнік на ніве Бацькаўшчыны. Я спрабую сябе ў розных сферах. У мяне свая каманда. Я спрыяю новым ініцыятывам. Шмат хто не гатовы рызыкаваць і дзейнічаць публічна. Даводзіцца браць удар на сябе. Нічога прыемнага ў гэтай публічнасці няма, тым больш нейкай зорнай славы.

**«НН»: Існуе даволі пашыранае меркаванне, нібыта Вы маеце такую вядомасць і дасягнулі ўсяго дзякуючы свайму тату.**

**ФВ:** Усе Вячоркі развіваюцца самі па сабе. Здольнасць да моваў, здольнасць да асвойвання розных прадметаў і гуманітарных навукаў мне перадаліся ад бацькі. Але мой бацька ніколі мяне нідзе не прапіхваў. Наадварот, ён самы галоўны мой крытык. Я вельмі ім ганаруся, бо без яго я не стаў бы тым, кім я ёсць. Тое, што я нарадзіўся ў гэтай сям’і і маю такое прозвішча, не залежала ад мяне.

## Галоўнае — быць чыстым і папрасаваным

**«НН»: Вы шмат увагі аддаяце выбару адзення?**

**ФВ:** Калі ў Мінску, то імкнуся выглядаць прыстойна. Апранаць нейкі гарнітур, кашулю, заўсёды сачу, каб вопратка выглядала прыстойна. Вельмі шмат рэчаў з сэканд-хэнду, гэта добрае адзенне, высокай якасці, але набытае на распродажы. Самае важнае ў любым гардэробе — гэта гадзіннік і гальштук. Вось гэта павінна быць калі нават і не дарагое, але прыстойнае. Ну я не кажу ўжо пра нячышчаныя боты і пакамячаную кашулю. Галоўнае — быць чыстым і папрасаваным.

**«НН»: Франак, у чым сакрэт Вашай папулярнасці сярод жанчын?**

**ФВ:** Самыя прыгожыя дзяўчаты — беларускі. І вельмі крыўдна, калі некаторыя дзяўчаты сябе недаацэньваюць. Многія беларускія мужчыны паводзяць сябе па-халуйску ў дачыненні да дзяўчат. Трэба быць не проста далікатным з жанчынай, трэба быць з ёй на роўных. У гэтай павазе і ёсць сакрэт. Шмат дзяўчат кідаецца на нейкую фіктыўную, ілюзорную папулярнасць хлапцоў. Трэба адрозніваць пачуцці да твайго вобразу і да цябе як асобы. Мая маці заўсёды вучыла мяне глядзець у душу чалавека. Але быў у мяне таксама момант, што дзяўчына, з якой я сустракаўся, здавала мяне ў КДБ.

**«НН»: А што Вас вабіць у жанчынах перад усім?**

**ФВ:** Выгляд — вочы, валасы, формы, голас. Яна можа нічога не казаць, але павінна смяяцца. Для мяне істотны голас і смех. Трэцяе — яе мова і дасціпнасць. Чацвёртае — гэта тое, што яна зрабіла. Для мяне істотна, каб чалавек, з якім я будую стасункі, нешта з сябе ўяўляў.

## Калі Бацькаўшчына пакліча — буду на барыкадах

**«НН»: Вы верыце ў каханне з першага позірку?**

**ФВ:** Веру, вельмі веру. Было такое. Яно самае моцнае. Але калі няма кручкоў паміж вамі, за якія можна зачапіцца, то вельмі хутка рассыпаецца.

**«НН»: На дадзены момант Вы адзін?**

**ФВ:** Так, адзін. Немагчыма будаваць адносіны, калі жыццё тваё працякае ў самалётах і цягніках, на барыкадах і радыёмікрафонах. Але хочацца. Для мяне самае істотнае ў каханні, каб цябе чакалі.

## Люблю хадзіць у лазню

**«НН»: Як Вы адпачываеце душой і целам?**

**ФВ:** Сустракаемся з сябрамі, гаворым. Калі ў Мінску, то ходзім у лазню. Вельмі цікава, што ў лазні можна падслухаць размовы розных старых дзядоў. Сяброўка заразіла мяне кулінарыяй, жыву цяпер адзін, дык навучыўся гатаваць бабку, лазанню, сушы і ўсё на свеце. Яшчэ шмат падарожнічаю. Быў у масаяў у Кеніі, двойчы вазіў кубінскім дысідэнтам тэхніку. Збіраюся ў Паўночную Карэю ці Туркменістан.

**«НН»: Якім Вы бачыце сябе праз некалькі гадоў?**

**ФВ:** Жыццё можа павярнуцца як заўгодна, але я заўсёды ў поўнай баявой гатоўнасці. Калі трэба будзе — буду каля мікрафона за камп'ютарам. Калі Бацькаўшчына пакліча — буду на барыкадах. Калі трэба будзе заняцца арганізацыйнай і тылавой працай — буду там, дзе патрэбна. Паглядзім, пакуль я спецыяліст па камунікацыях.

**НН: Якія самыя галоўныя словы ў Вашым жыцці?**

**ФВ:** Радзіма, Бацькаўшчына, Айчына, як ні называй яе, — гэта самае галоўнае. Далей — «каханне/любоў». Трэцяе слова — гэта «рух». Самае горшае, што можа быць у жыцці, — гэта стаяць на месцы. А беларусы, на жаль, спыніліся.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

# «Мы ўтрох ішлі, лёд зваліўся — вось Ваські і няма…»

Падчас адлігі ў Мінску **ледзяшом забіла** 54-гадовага слесара.

Трагедыя здарылася 31 студзеня ўдзень на вуліцы Герасіменкі, 41.

Праз суткі каля таго нешчаслівага дома не было ледзяшоў, што звісалі з даху: наўрад ці камунальнікі паспелі іх паабіваць. Проста не было. Дзіўна нават, як лядзяш зваліўся — дах жа не нахілены.

«У кватэры на дванаццатым паверсе з даху пачала вада прасочвацца, дык слесараў выклікалі абследаваць», — патлумачыў пенсіянер, што жыве ў гэтым доме.

«Мы ўсе слесары. Мы ўтрох учора выходзілі, а Васька быў пасярэдзіне. На яго і зваліўся лядзяш. Гэта выпадак. Мог на мяне альбо на яго, — паказвае відавочца той трагедыі на другога, які адышоў убок. — Ніколі не ведаеш, як тое здарыцца. «Хуткая» праз хвілін пятнаццаць прыехала. Каб раней, то можа і выратавалі б. А што мы маглі зрабіць? Ён крывёю захлынуўся. Сям'я ў яго была, дзеці дарослыя...»

У ЖЭУ ж заявілі, што слесараў у той дзень пасля абеду адхілілі ад працы: меркавалі, што яны былі нападпітку. І не разумеюць, чаго яны пайшлі ў той дом: маўляў, задання ім не давалі. Следчы камітэт праводзіць праверку.

**Кастусь Матушыч**



Мужчыны вось так выходзілі і за момант да трагедыі, толькі пасярэдзіне ішоў загінулы.

**Вышук**



Касцюковіцкі РАУС расшуквае Жмейду Сяргея Уладзіміравіча. Ён падазраецца ў забойстве і наўмысным нанясенні цяжкага цялеснага пашкоджання. Прыкметы: на выгляд 30 гадоў, сярэдняга целаскладу, рост 175 см, вочы цёмныя, валасы русыя. Хто ведае месцазнаходжанне падазраванага, просьба тэлефанаваць: (02245) 5-49-44, (044) 703-63-00.



Расшукваецца жыхар Барысава Быркоў Арцём Пятровіч. Падазраецца ў гвалтоўных дзеяннях сэксуальнага характару. Прыкметы: на выгляд 20—25 гадоў, моцнага целаскладу, светла-русыя валасы, вочы карыя. Пад ніжняй губой справа ёсць радзімка. Хто ведае месцазнаходжанне падазраванага, просьба тэлефанаваць: (01777) 70-70-06.



Расшукваецца Кіраеў Аляксандр Аляксандравіч. 5 студзеня 2013 ён сышоў з дому ў Гомелі, і больш яго сваякі не бачылі. Прыкметы: на выгляд 25 гадоў, рост 180—185 см, сярэдняга целаскладу, валасы светла-русыя, ёсць залысіны, вочы блакітныя. Быў апрануты ў шэрую куртку (чырвоная падкладка), сінія джынсы, карычневыя чаравікі. Хто ведае, дзе Аляксандр цяпер, просьба патэлефанаваць: (0232) 41-09-34, (029) 677-62-69.

# Збіты спявак Ягор Ваўчок паправіўся

Давялося зрабіць **аперацыю на носе**.

20-гадовага спевака моцна збілі ў навагоднюю ноч у Мазыры. На вуліцы паміж дзвюма кампаніямі ўзнікла патасоўка. Ягор ад моцнага ўдару страціў прытомнасць. Яму зламалі нос, скалолі два зубы, падбілі вока, рассеклі губу.

«Я амаль паправіўся, — расказаў Ягор «НН». — Выпісалі мяне раней за тэрмін: бальніца была перапоўненая пасля навагодніх святаў. І я паехаў у Мінск здаваць экзамены, удзельнічаць у здымках».

На носе хлопцу давялося рабіць аперацыю. Зубы таксама «адрамантавалі», і зусім нядорага — за 320 тысяч рублёў.

Ягор кажа, што расследаванне той бойкі вядзецца. Разам з ім заявы ў міліцыю падалі яшчэ чатыры чалавекі: у трох цяжкія цялесныя пашкоджанні. Аднаго з крыўдзіцеляў, па словах хлопца, нават затрымлівалі пасля бойкі, а затым адпусцілі.

Праз гэтую гісторыю Ваўчок прапусціў першы экзамен. «Астатнія здаў паспяхова. Гэта фактычна мая апошняя сесія: толькі дзяржэкзамен застаецца і пераддыпломная практыка».

Ваўчок хоча працягнуць творчую кар'еру, хоць атрымлівае адукацыю эканаміста. «Калі шчыра, то я думаў пра гэта шмат. Мяне моцна цягне на сцэну: хацеў бы прысвяціць жыццё музыцы. І прафесія эканаміста вартая павагі. Нават калі прафесія — артыст, трэба ўмець сябе прадаваць».

**Сяргей Макарэвіч**



Падчас здымак тэлепраекта АНТ «Акадэмія талентаў».

**«Гэй, пі.ар!» — адказ нагой у твар**

«НН» расшукала хлопца, які біўся з кампаніяй Ягора. «Адно магу сказаць: у той сітуацыі яны не мелі рацыі. Ні я, ніхто з маіх блізкіх не хацеў нічога таго, што ў выніку атрымалася. Але, як кажуць, цяпер мае рацыю той, хто заяву піша, а не той, хто адстойваў свой пункт гледжання».

Расказаць «НН» сваё версію здарэння ён не захацеў. Але ў сацыяльных сетках усё-ткі выказаўся. «А што ж ты [Ваўчок] не раскажаш, што бойка пачалася праз твайго сябра, які здолеў толькі сказаць на мяне: «Гэй, пі.ар!» Ты атрымаў за свайго сябра-балабона. І ніхто не хацеў проста так біцца».

# Крымінальную справу супраць Лукашэнкі (Пінск) спынілі

21 студзеня дырэктарам тэатра ў Пінску прызначылі Аляксандра Лукашэнку. Справа непрыкметная, калі б былы начальнік аддзела культуры Пінскага гарвыканкама летась не быў пад следствам. Яго вінавацілі, што за гарадскія грошы на тыдзень звазіў у Польшчу сваякоў. А ехаць нібыта мусіў ансамбль «Палескія зоры». «Наша Ніва» пагаварыла з Лукашэнкам.

**«Наша Ніва»: Чым скончылася крымінальная справа?**

**Аляксандр Лукашэнка:** Справу закрылі з прычыны адсутнасці складу злачынства. У снежні я атрымаў афіцыйны дакумент.

**«НН»: За гэты час Вас звольнілі з працы…**

**АЛ:** Пачакайце, я сышоў сам з гарвыканкама. І тое, што пісалі ў некаторых СМІ, гэта ўсё на сумленні людзей, якія былі не ў тэме.

У мяне ў кастрычніку скончаўся кантракт. І я напісаў заяву на звальненне па згодзе бакоў. Паколькі расследаванне яшчэ вялося, каб, скажам так, нікога не кампраметаваць. Ды на сённяшнюю пасаду прызначэнне было зроблена па ўзгадненні з гарвыканкамам.

**«НН»: Расследаванне цягнулася амаль паўгода. Чаму так доўга?**

**АЛ:** Я працаваў у гарвыканкаме да канца верасня. І ніхто мяне ад працы не адхіляў. Былі праверкі ў гэты час: правяралі маю працу за тры гады. У выніку выявілі парушэнні, але яны былі дробнымі і не цягнулі на крымінальную справу.

**«НН»: Справа супраць Вас — памылка?**

**АЛ:** Я не хачу наконт гэтага гаварыць. Няхай тым людзям будзе добра. Здараецца, кіраўнік трапляе ў сітуацыю, калі такія абвінавачванні сыходзяць ад людзей, якіх прымусіў працаваць. І яны пачынаюць па-дробнаму шкодзіць і пісаць ананімкі. Калі так атрымалася, значыць, і я здзейсніў кіраўніцкія памылкі.

**«НН»: А тая паездка ў Польшчу ўсё-ткі была?**

**АЛ:** Была. Але камусьці падалося, што мы забюджэтныя сродкі з'ездзілі. Са мной ездзілі кіраўнікі ўстаноў культуры. І мы бралі сваіх сямейнікаў і сяброў, каб паменшыць сабекошт паездкі. Мы не былі там у камандзіроўцы — ехалі за свае грошы.

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**

## Сціслa

### Стрэлілі сябру ў вока

У Крупскім раёне школьнікі вярталіся пасля ўрокаў дахаты, і адзін з іх захацеў пахваліцца пнеўматычным пісталетам. І так няўдала стрэліў, што трапіў у вока 13-гадоваму таварышу.

### Хабар ацанілі ў 15 гадоў турмы

Столькі патрабуе пракурор для намесніка старшыні Мінгарвыканкама Ігара Васільева. Прысуд вынесуць 8 лютага. Ён вінаваціцца ў атрыманні хабару 250 тысяч даляраў.

### Сабачнік збіў жанчыну

Мінчучка выгульвала сабаку байцоўскай пароды, калі да іх кінуўся такі самы гадаванец. Жывёліны счапіліся. Калі падбег гаспадар другога сабакі, то не раздумваць чацвераногіх узяўся, а пачаў сварыцца з жанчынай. Ён нацкаваў на яе свайго сабаку. Жанчына аказалася кінолагам, таму хутка ўціхамірыла чужую жывёліну. Тады мужчына збіў яе і ўцёк. Міліцыя шукае зламысніка.

### У Маскоўскай вобласці выкралі беларуса

Цяпер 30-гадовага мужчыну вызвалілі. Яго выкралі перад Новым годам у Падольску і трымалі ў кватэры. Патрабавалі выкуп 232 тысячы еўра. 1 лютага беларус скарыстаўся няўважлівасцю аднаго з выкрадальнікаў і патэлефанаваў у паліцыю. У кватэры затрымалі армяніна, які падазраецца ў выкраданні.

**КМ**

**Гуру белдызайну** выставіў свае новыя працы.

# Цэслер



**Уладзімір Цэслер**

Самы вядомы беларускі дызайнер. Нарадзіўся ў 1951 у Слуцку. Пасля службы ў арміі пераехаў у Мінск, дзе закончыў факультэт дызайну Акадэміі мастацтваў. Першы плакат, выкананы ў суаўтарстве з Сяргеем Войчанкам, быў зроблены для піянерскага ансамбля ў 1979. Ягоныя працы прадстаўленыя ў музеях па ўсім свеце — ад Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі да Луўра.

З Уладзімірам Цэслерам мы сустракаемся ў ягонай майстэрні, у адным са старасвецкіх двухпавярховікаў на вуліцы Першамайскай. Мастак займае гарышча, і трапіць да яго можна, пазваніўшы ў дамафон па «неіснуючым» у пад'ездзе нумары кватэры.

«Мы з Сяргеем Войчанкам так біліся, каб атрымаць гэтае памяшканне! — кажа мастак. — Дзіўна, што другую палову гарышча ніхто так і не заняў: выдатнае месца».

Падчас размовы Уладзімір Цэслер паспявае адначасова гатаваць абед і паліць цыгарэты літаральна адну за адной: «Дзеці звычайна мараць быць бульдазерыстамі альбо танкістамі, а я неяк рана зразумеў, што мне падабаецца быць мастаком. Аднойчы ў дзяцінстве я трапіў на нейкае мерапрыемства і мне там паказалі мастака — «вось гэты дзядзька, ён мастак». І ён, дарослы чалавек, размаўляў са мной на роўных. Гэта яшчэ раз упэўніла мяне, што я хачу займацца мастацтвам. Пакуль мне пачалі купляць першыя альбомы, усе кнігі ў доме былі размаляваныя...»

Уладзімір Цэслер нарадзіўся ў Слуцку, там і хадзіў у мастацкую школу. «Вядома ж, лепей было б у такім выпадку нарадзіцца ў Італіі, — усміхаецца Цэслер. — Мастацтва прыйшло адтуль — там спрыяльны клімат для літаратуры, філасофіі і мастацтва. Але ў XX стагоддзі італьянцам гэта надакучыла і мастацтва пачало культывавацца ў нашым рэгіёне. Аднойчы з польскім знаёмым мы гулялі па Варшаве і ўбачылі жылы дом — саўковы, з бітумнымі швамі, такое адчуванне, што рабіў яго будбат. І прыяцель пытаецца: «Як мяркуеш, у такім доме можа нарадзіцца нейкая гарманічная асоба?» Я тады сказаў, што чаму б і не — якая розніца, дзе ты нараджаешся, не ад гэтага ў табе сонца ўстае».



**«Свята ў горадзе».**

Адна з апошніх гучных працаў Цэслера — «Свята ў горадзе», яна стала галоўнай падзеяй вялікай выставы авангарднага мастацтва летась на «Гарызонце»: абсалютна пусты святочна аздоблены праспект Незалежнасці.

«Гэта было а пятай раніцы, я ехаў у аэрапорт з сябрам і ўбачыў горад, упрыгожаны да свята, — кажа Цэслер. — Мы з фатографам дамовіліся на пятую гадзіну раніцы іншага дня. Прыехалі і аздымалі. Прычым зроблена «Свята ў горадзе» амаль без фаташопа. Я толькі пасля заўважыў, там насупраць цырка ляжаў п'яны — вось я яго і прыбраў. Выйшаў не Мінск, а Марс проста!»

Пра дарагі сэрцу Мінск Цэслер можа разважаць бясконца: «Адзіны будынак у Мінску, які пазнаюць, — гэта бібліятэка. Яна ўваходзіць у спіс самых няўдалых праектаў, але гэты сімвал падпадае пад тую самую культуру. Я дагэтуль шкадую кінатэатр «Беларусь», якога болей няма, — гэта быў унікальны канструктывізм. І шкада фасада мінскага вакзала, ён быў яскравы — можна было ўпісаць яго ў навакольны хайтэк. Але мастакі ўсе бурчаць...» Мастак не абыходзіць увагай і новы лагатып беларускай сталіцы, распрацаваны брытанскай кампаніяй INSTID на замову Мінгарвыканкама: «Ці можна па гэтым лагатыпе сказаць, што гораду тысяча гадоў?»

Тым распрацоўшчыкам закідалі і падабенства мінскага знака і слогана да лонданскага. Цэслер таксама сутыкаўся ў сваёй творчасці з такімі з'явамі. «Нейкі іранскі мастак адправіў мой плакат на міжнародны конкурс і атрымаў за яго прэмію. Нічога не было зменена, толькі надпіс па-арабску з'явіўся. І што мне рабіць з гэтым чалавекам, наймаць юрыстаў? Ці вось з Самары ліст прыходзіць, што ў мяне «садралі» плакат. Ці я зрабіў Che Burask'у (Чабурашка ў духу Чэ Гевары), а мне маскоўскі мастак напісаў гнеўны ліст, маўляў, я перапрацаваў ягоную працу. Бываюць супадзенні — у мяне ж гэта цэлая серыя, Чэ-хаў, Чэ-каціла...»

У сучаснай Беларусі, кажа Цэслер, не ўсе разумеюць, што такое дызайн. «Гэта не ўпрыгожванне, а хутчэй з'ява псіхалогіі і сацыялогіі, — кажа мастак. — Узнік ён у ЗША падчас Вялікай дэпрэсіі, калі трэба было прадаць нешта. Як прымусіць чалавека, у якога ёсць два прасы, купіць яшчэ і трэці? Трэба канцэпцыя, якая змяняе тваю свядомасць, — купіўшы такі прадмет, ты разумееш, што ўсё папярэдняе жыццё пражыў дарма. Задача дызайнера — раскласці твой унутраны свет па пунктах».

Здольнасць мастацтва змяняць асяроддзе і грамадскія настроі Цэслер прадэманстраваў у Тальяці ў Самарскай вобласці Расіі. Мастаку замовілі сорак вострасацыяльных білбордаў. «Мне прапанаваў зрабіць гэты праект цэнтр «Экаом», — кажа Цэслер. — Я стварыў серыю плакатаў, дзе словы кшталту «кра-дзеж» былі аформлены накшталт англійскіх дзеясловаў у «-інгавай» форме. «Крадзінг», «кідалінг»... Гэта была акцыя супраць бруднага бізнэсу. Пасля гэтых плакатаў знялі губернатара».

Мастак не першы раз здзіўляецца такой рэакцыі на сваю творчасць. «Мне нядаўна расказалі, што ў Маскве існуе фан-клуб саколак, якія я ствараю, — кажа Цэслер. — Яны адсочваюць з'яўленне кожнай новай і адразу іх купляюць».

**Юрась Ускоў**

**Выстава Уладзіміра Цэслера**

Да 2 сакавіка ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47) працуе выстава «Практыка рынкавага рэалізму» Уладзіміра Цэслера. На выставе — жывапіс, скульптура, арт-аб'екты і іншыя праявы яго крэатыўнасці.

# Пра літаратуру — з турмы

Выйшла новая кніга **Алеся Бяляцкага** «Асвечаныя Беларушчынай».

Гэтую кнігу Алесь Бяляцкі задумаў выдаць да свайго 50-годдзя, 25 верасня 2012. Загадзя пачаў збіраць тэксты, аднак у жніўні 2011 быў арыштаваны. Юбілей праваабаронца сустрэў у турме: кіраўніка «Вясны» асудзілі на 4,5 года зняволення. Міжнародныя арганізацыі прызналі гэты прысуд палітычным.

Маладзейшыя мо і не чулі, што да таго, як у Беларусі з'явілася пільная патрэба ў абароне правоў чалавека, сённяшні палітвязень, беларускі кандыдат на Нобелеўскую прэмію міру займаўся літаратурнымі даследаваннямі, быў дырэктарам Музея Багдановіча... Кніга Алеся Бяляцкага «Асвечаныя Беларушчынай», прысвечаная постацям і творам беларускай літаратуры, нядаўна была надрукаваная ў Вільні.

Адкрываюць кнігу свежыя артыкулы. Першы з іх, «Пра беларускую турэмную літаратуру», быў перасланы ў сямі лістах з Бабруйскай калоніі. Бяляцкі аналізуе зборнік Уладзіміра Някляева «Лісты да Волі» з паэмай «Турма», параўноўваючы яго паэзію з Купалавай. «Някляеў-палітык не знішчыў Някляева-паэта», — адзначае Бяляцкі. А зборнік «Амерыканскіх стіхов» Аляксандра Фядуты і кніга Васілія Гросмана, прачытаныя ў турме, навялі на думкі, «наколькі ўсё ж розная чалавечая істота» ў памежнай сітуацыі, кшталту турмы, ва ўмовах экзістэнцыйнага выбару. Там, дзе адны бачаць «жахі КДБ», іншыя — веліч чалавечага духу і магчымасць выбару нават у безнадзейнай сітуацыі. «Калі раней платай за захаванне чалавечай годнасці часта было само жыццё, то цяпер кошт непараўнальна меншы, але ўсё ж такі вельмі істотны: кар'ера, дабрабыт, матэрыяльныя выгоды, сямейны спакой... І як вытрымаць?» Бяляцкі прапануе мець арыенцірам творы Быкава і Гросмана, Генюш і Шаламава.




Кніга «Апошні рэйс» Хвядоса Шынклера, адна з нешматлікіх беларускіх кніг з бібліятэкі Жодзінскай турмы №8, стала для аўтара нагодай скласці нарыс пра гэтага забытага пісьменніка 1920—1940-х. Паказаць праз лёс інтэлігента гісторыю запрыгоньвання літаратуры, маральнага, а пасля і фізічнага знішчэння асобы ў сталінскія часы.

Яшчэ адно турэмнае эсэ, складзенае ў Бабруйску, прысвечанае даўняму сябру, паэту і праваабаронцу Сержуку Сысу. Пачаўшы ад адзінай пакуль кнігі паэта «Стрэмка», Бяляцкі расказвае гісторыю трыццацігадовага сяброўства, дзе досыць і смешнага, і трагічнага.

Рэшта твораў, змешчаных пад вокладкай з Пегасам, друкаваліся раней у «Дзеяслове», «ЛіМе», «Беларусі», «Маладосці»... З сабраных разам тэкстаў розных гадоў складаецца цэласны літаратурны канон: Купала і Юхнавец, Арсеннева і Аляхновіч, Каганец і Золак, Адамовіч і Глобус.

Зрэдагавала кнігу пісьменніца і даўняя супрацоўніца Музея Багдановіча і «Вясны» Паліна Сцепаненка.

**Андрэй Скурко**

## Сцісла

**Depeche Mode прэзентавалі сінгл**

1 лютага гурт выклаў у інтэрнэт песню Heaven з новага альбома Delta Machine. Альбом паступіць у продаж 26 сакавіка. Пасля гэтага гурт адправіцца ў тур па Еўропе. 29 ліпеня ён выступіць на «Мінск-Арэне».

**Гісторык Грыцкевіч выдаў кнігу**

«Гэта выклад гісторыі 1918—1921 у Беларусі. Беларускія гісторыкі, калі і пісалі пра гэтыя гады раней, то пісалі з маскоўскага пункта гледжання. Я паспрабаваў паглядзець на тыя падзеі з нашага боку і імкнуўся быць аб'ектыўным», — адзначыў гісторык Анатоль Грыцкевіч падчас прэзентацыі кнігі сваіх прац, што выйшла ў «залатой серыі» «Беларускі кнігазбор».

**У культурную сталіцу Беларусі едзе «Бутырка»**

Адным з першых канцэртаў у Магілёве, які сёлета абвешчаны культурнай сталіцай Беларусі, будзе выступ расійскага гурту «Бутырка». Ён выконвае турэмны шансон.

**ВГ, ЮУ**

# Не гарацъ ліхтары ў Люцінцы

У нашай Люцінцы ёсць два слупы з ліхтарамі ўздоўж галоўнай артэрыі, дарогі Падневічы—Пяршаі. Адзін з іх якраз насупраць помніка на месцы сядзібы Дуніна-Марцінкевіча... Але яны амаль ніколі не гараць. Разы два на год жыхары вёскі пішуць лісты раённым уладам, і тады ліхтар (адзін з іх) часова ўключаюць. На пару тыдняў. А потым яны ізноў гаснуць — хаця гэта не хуліганы б'юць.

Не ведаю, за што нашай Люцінцы такая своеасаблівая пашана ад электрыкаў. А вось файна ж было б, калі б помнік на месцы сядзібы Марцінкевіча быў бы адмыслова падсветлены штоночы, неяк крэатыўна, каб кожны кіроўца, што праязджае праз Люцінку, бачыў, што гэта за месца. Каштавала б гэта вельмі малую частку ад каштарысу мінскіх феерверкаў.

Але масавая бюракратычная свядомасць мае іншыя законы, чыста біялагічныя. У маладосці гэтага не разумееш, у сярэдніх гадах бунтуеш, а пад старасць прыходзіць пэўны спакой, які нехта называе мудрасцю, а нехта пафігізмам. Ну не гараць ліхтары ў Люцінцы, то хай не гараць. Гэта ж вам не Ханука — гэта ціхая беларуская ноч. Раз на месяц і так поўня, і тады ніякія ліхтары непатрэбныя.

**Алесь Белы, Люцінка (Валожынскі раён)**

## З намі Уільям Окам, або Пра любоў, людскасць і роднае слова

Атрымалася так, што першым творам, прачытаным у новым годзе, стала «каляднае апавяданне» Наталкі Бабінай «Рачэчка, жывая душа», змешчанае ў «Нашай Ніве». Своеасаблівы калядны падарунак. Бо ў творы ў нечакана новым святле паўстае балючая для беларусаў тэма — роднай мовы і нацыянальнай тоеснасці.

Аўтарка не пазбягае меладраматызму, ідылічных сцэнаў і, вядома ж, заканчвае твор на шчаслівай ноце. Калядны хэпі-энд, шчаслівая развязка... Ну ды гэта даніна жанру. А якія завязка і кульмінацыя! Якім далёка не віртуальным, а рэальным маральна-псіхалагічным і філасофскім зместам напоўненае апавяданне!

У душы галоўнага героя, доктара-хірурга Ігара Васільевіча Ціхага, ідзе пакутлівае змаганне дабра са злом, людскасці з гэтым самым, паводле азначэння аўтаркі, здаровым сэнсам, які настойліва галосіць: ці трэба ратаваць маці, якая цябе некалі кінула? Ці трэба так любіць сваіх пацыентаў такімі як ёсць? І ці трэба, наваошта табе звяртацца да іх на беларускай мове?

Перад цяжкім выбарам, цяжкім рашэннем стаіць герой апавядання ў гадзіну, якую называюць момантам ісціны. І вось добрая душа Наталка Бабіна звяртаецца па дапамогу як да высокай інстанцыі да... Уільяма Окама, сярэднявечнага францысканскага філосафа-наміналіста і тэолага, гарачага прыхільніка рознага кшталту ведаў, свабоды філасофскай думкі, за што быў абвешчаны ерэтыкам і зведаў турэмнае зняволенне. Так, да таго самага Уільяма Окама, якому належыць знакаміты прынцып «брытвы Окама»: «Не трэба памнажаць колькасць сутнасцяў звыш неабходнасці».

Герой апавядання «Рачэчка, жывая душа» бярэ на ўзбраенне прынцып філасафа-гуманіста. Правярае ім свае ўчынкі. Прыходзіць да яснага ўсведамлення, што «найлепш лечыць слова простае, а не крывое, сваё слова. Да таго, што гэта правільна, калі гаварыць па-беларуску, як правільна не кідаць дзяцей і прабачаць маці.

Не магу не адзначыць таксама чарговую старонку «Беларускай глыбіні» Паўла Севярынца, яго паэтычна-ўзнёслае і пранікнёнае да болю эсэ «Мова любові» («Наша Ніва» ад 16 студзеня 2013). Яно надзвычай сугучнае са сказаным вышэй. «Беларуская мова спалучае ў сабе ўсё багацце пачуццяў, але любоў з іх найбольшая...».

Наталка Бабіна і Павел Севярынец, пэўна ж, не дамаўляючыся папярэдне між сабой, ставяць на адну дошку любоў, людскасць і родную мову. Ці, кажучы крыху інакш, вызначаючь сваё, «простае, а не крывое», слова як неабходную перадумову людскасці, еднасці, збераження прыроднай і духоўнай сутнасці народа. Мастацкае перабольшанне? Калядныя фантазіі? Як бы не так.

**Анатоль Вярцінскі, пісьменнік, Мінск**

### Андрэй Аляксандраў
### Кіслата

Кіслата з'ядае мяне знутры,
Кіслата выядае — адзін, два, тры.
Мне няма чым дыхаць, няма куды йсці.
Я кладу сябе да тваёй літасці.

Я баюся выплеснуць кіслату,
Бо яна знішчае, а смерць — табу.
Распускаемся ў гэтай кіслаце
Я і ты — і ўсё, што завецца «свет».

Асабісты наркотык, прыватны drug.
Ты — ласкавай коткай, ты — усё не так.
Ты — ацыднай мрояй, жыццём і сном,
Маім кіслародам, маім небыццём.

Кіслата ў венах, кіслата ў крыві
Выядае сэрца. Можаш — жыві,
Хай бурліць у прыцемках, я змаўчу,
Антацыду літасці не хачу.

Пераходзім з цемраю мы на «ты».
Мы жывём, як чуем смак кіслаты.
Хай яна заб'е нас, распусціць ушчэнт,
У распусце роспуску знойдзем сэнс.

Хай цяжарным воцатам ляжа ноч
І дажджом кіслотным — ты не суроч,
Запусці па венах — і будзе кайф,
Кіслата ў клетках — сапраўдны life.

Недарэчнасць існага — гэта край,
Тая плынь мацней за нас — і няхай.
І адзінае рэчыва, якім варта быць, —
Кіслата, што з'ядае цябе знутры.

### «Беларусь, Манголія і Танзанія»

На ўрачыстай цырымоніі ўручэння дыпломаў у маім City University London прадстаўнік кіраўніцтва ўнівера, расказваючы пра шырачэзную геаграфію студэнтаў, назваў для прыкладу тры краіны: «Беларусь, Манголія і Танзанія. Гэта найлепшы адказ на дакучнае пытанне «Што яны пра нас думаюць?

**Кастусь Лашкевіч, Лондан**

# Беларуская глыбіня. **Разбуральнікі**

Піша **Павел Севярынец**.

*Бо калі гэтае пачынанне і гэтая дзея ад людзей — дык яно разбурыцца, а калі ад Бога, дык вы не зможаце разбурыць яго.*
*Дзеі 5:38*



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Сварымся з інжынерам з Белавусаўшчыны.

— Слухайце, чаго вы шляхецкую сядзібу ў сябе разбурылі?

Інжынер, адзін з нямногіх непітушчых, у якога за год выходны бывае толькі 1 студзеня, падымае стомленыя вочы:

— Што?.. А, гнілое драўлянае там нешта? Во ўжо вашы раскрычаліся... шуму на ўвесь раён. Ды каму яно трэба, парахно тое, калгасу на баланс перадалі, ну дык нашто яно нам!..

— Нашто? Гэта гісторыя ваша, людзі вы...

— Нахрана. Нам. Гэта, — інжынер паўтарае, націскае на словы, глядзіць на мяне зморана і бязлітасна, быццам на паламаны трактар.

А зусім нядаўна, перад 200-годдзем Юзафа Крашэўскага, тут раскрышылі фамільны склеп Крашэўскіх у Доўгім. Стаяла сабе ў бярозках каменіца XIX ст., есці не прасіла — і от, да прыезду нейкага мясцовага начальніка бульдозерам развярнулі, аж цынкавае ашмоцце ад трунаў ды прах па наваколлі... Бегаў Мікалай Воўчык, настаўнік гісторыі, крычаў — што ж вы робіце! — дык выклікалі ў райвыканкам. А там, замест таго, каб распытацца, як паправіць шкоду ды па-людску склеп аднавіць (справа-та падсудная!) — у лоб яму: «Ты што раён пазорыш?!» Ды так наехалі, каб нікому больш тут нават піскнуць не заманулася.

Ну вось нахрана нам *гэта*, яны ніяк зразумець не могуць. І нішчаць, па-дробненькаму, бо адны рэшткі тут засталіся, ды і бесы здрабнелі, ці што... А вось яшчэ стагоддзе не прайшло — тады было так, пабуйному, увесь свет разбурым да асноваў. І палац Сапегаў у Ружанах, і кляштар у Картуз-Бярозе, і Палац Пуслоўскіх у Косаве, і цэрквы, і касцёлы, і людзей, безліч жывых людзей да сценкі, а потым і саму сценку ў руіну, каб ані слядоў ад куляў, ані крыві, ані напаміну...

Думаеш, думаеш, ідзеш слядком між крушняў, пазарасталых бур'янам, і ўсё адно. Крок за крокам апынаешся далей, чым хацелася б.

Якія такія «яны»!...

Мы самі. Або маўчым, дачы разбурыць, або разбураем самі — спярша абыякавасцю, грэблівасцю, а потым спрабуючы апраўдаць сябе... і ў выніку руйнуем нешта куды важнейшае, чым магілу ці закінутую шляхецкую сядзібу.

Разбураючы памяць, мы нішчым самі сябе. Разбураем не адно муры, пабудаваныя продкамі-хрысціянамі. Растрэскваем ды раскідаем тое, у чым мы падобныя да Бога, і ўсё больш прыпадабняемся таму, чыя задача — у чалавеку ўсё Божае знішчыць. У большасці выпадкаў несвядома, але ад гэтага толькі страшней.

Чаму мы, увесь час гатовыя дзеля дробязяў разбурыць адносіны і згубіць чалавека, нават не задумваемся, што сэрцы больш пяшчотныя за камяні?

Чаму мы, асуджаючы звады паміж магнатамі ў восьвосць гатовай рухнуць дзяржаве, самі грызёмся міжсобку і сябруем толькі супраць кагосьці — хай яно хістаецца ды хоць лясне, абы супернікаў завалiла!

Чаму замест будавання прыкладаў усцяж гробім тое, што здаецца падазроным або дарэмным? Чаму так заўзята бяромся выкалупваць парушынкі з чужых вачэй ды вуснаў сваімі бярвеннямі?

...І потым здзіўляемся, чаму раптам так пуста і гулка на душы, а вакол — нікога, хто стаў бы побач.

Адказы вядомыя, чаго тут мараль чытаць.

Пакуль мы, як кепскія дзеці, бурым чужыя пясчаныя замкі ды ўласныя лёсы — Госпад будуе. І рэч у тым, што Ён пабудуе. Пытанне — з намі ці без нас.

Асабліва шматзначна шыецца, шэпчацца гэтае пытанне ў Новых Засімавічах — лясным вайсковым гарадку пад Пружанамі, дзе цяпер стаіць верталётная часць, знаходзіцца найвялікшая ў Еўропе калонія гракоў і дзе проста ў дварах на разлапістых хвоях сядзяць паседаны совы.

Здавалася б, паўстагоддзя таму сюды прыйшлі разбуральнікі — тыя самыя, якія калісьці раскрышылі цэрквы і касцёлы старога Берасця, каб пабудаваць агромністую памежную крэпасць супраць Захаду, гатовыя знесці астатні свет зброяй. Рылі зямлю, абблытвалі яе дротам, расстаўлялі вялізныя рагатыя машыны, здольныя трымаць у страху цэлыя гарады і высаджваць у паветра кварталы феерычнымі ракетамі.

Але трэснуў, рассыпаўся сам Саюз, засталіся разгубленыя насельнікі — і вось у памяшканні былога КПП тагачасны вайсковец, а цяпер малады бацюшка, айцец Сяргей, з дапамогай сяброў, жыхароў і Бога зладзіў царкву — кантрольна-прапускны пункт у Валадарства Нябёснае. Задуманы як часовы, без арыенціра па баках свету, нябёсна-лазуровы, усярэдзіне гэта ўжо сапраўдны храм, дзе нават у будні дзень поўна народу. Сабраныя з 1/6 часткі сушы колішнія атэісты, колішнія разбуральнікі збіраюцца будаваць. Хор сярод малітваў абавязкова спявае і беларускія, бацюшка, ужо каторы месяц прастыўшы, ладзіць тут набажэнствы, спраўляе трэбы ды яшчэ (машыны няма, просіць сяброў ды знаёмых) паспявае дапамагчы настаяцелю ў Пружанах...

Людзі, якіх вучылі забіваць, — каюцца. Моляцца, жагнаюцца, хто як умее. Збіраюць раскіданыя калісь камяні.

Шукаючы сябе ў мінулым, мы ў рэшце рэшт сустракаем Бога. Шукаючы Бога ў будучыні, непазбежна ўпіраемся ў сябе. І, пакуль мы не на небе, нікуды нам не дзецца — ані ад грэху, што разбурае нас, ані ад Творцы, Які аднаўляе нас.

Бо такім наша жыццё, поўнае любові скрозь боль, збудаваў найвялікшы Будаўнік усіх часоў і народаў, Той, да Каго шэпчуць, маўчаць, як умеюць, і пяюць у былым КПП Новых Засімавічаў — Магутны Божа.

*Куплін*

**Нішчаць па-дробненькаму, бо адны рэшткі тут засталіся, ды і бесы здрабнелі, ці што...**

# Шчаслівы лёс беларускага тэрарыста нумар адзін

1 лютага — 100 гадоў ад нараджэння **Сяргея Прытыцкага.**

«Цэлы дзень блукаў па вуліцах Вільні з пісталетамі ў кішэнях, адчуваў асалоду ад жыцця і ўсяго, што мяне атачала. Хто ведае, ці буду я жыць заўтра. Дзень быў пахмурны і халодны, але ён падаваўся мне цудоўным. Ніколі я так прагна не ўдыхаў паветра, ніколі для мяне не былі такімі цудоўнымі неба і вада ў Вяллі, як у той дзень. І ўсе людзі здаваліся мне незвычайна добрымі...

Раніцай 27 студзеня я накіраваўся ў акруговы суд... ...Нарэшце старшыня суда абвясціў: «Запрасіць сведку Якуба Стральчука». Раскрыліся дзверы, і з кабінета пракурора выйшаў ён, правакатар.

Імгненна выняўшы з кішэняў абодва пісталеты, накіраваўся да стала суддзі. Накіраваўшы адзін пісталет пад правае вуха, другі ў спіну, націснуў на абодва куркі аднačасова. Прагучала два стрэлы. Суддзя і пракурор палезлі пад стол, публіка кінулася да выхаду. Для большай пэўнасці я паслаў яшчэ дзве кулі...

Шпікі выхапілі пісталеты і адкрылі па мне агонь... Перасталі страляць, калі палічылі, што я ўжо мёртвы...»

Так пачалася легенда 23-гадовага Сяргея Прытыцкага, сябра Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, чые ўспаміны мы працытавалі. Яго вылечылі і прысудзілі да смяротнай кары. Аднак кампанія салідарнасці, пачатая ў Польшчы і за мяжой, змусіла ўлады замяніць смяротны прысуд на пажыццёвае зняволенне. А праз тры гады Прытыцкага вызвалілі з турмы саветы. І пачалася яго кар'ера.



**Сяргей Прытыцкі**

(1 лютага 1913—13 чэрвеня 1971) — палітычны дзеяч Заходняй Беларусі і БССР. Нар. у вёсцы Гаркавічы (цяпер Падляскае ваяводства, Польшча). У маладым веку ўступіў у камсамол. Кіраваў забастоўкамі лясных рабочых. Арыштаваны ў 1933. У 1934—1935 вучыўся ў партыйнай школе КПЗБ у Мінску. З 1935 — сакратар Слонімскага акруговага камітэта камсамола. 29 студзеня 1936 у зале Віленскага суда страляў у правакатара. Асуджаны на смерць, пасля прысуд змянілі на пажыццёвае зняволенне. Вызвалены ў 1939. У БССР займаў шэраг партыйных пасад. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

### Яны паплаціліся

«Гісторыяй КПЗБ цяпер сур'ёзна не займаецца ніхто, — кажа гродзенскі гісторык Андрэй Вашкевіч. — Старэйшыя даследчыкі адыходзяць, маладыя напісалі пару прац... Непераправеранымі застаюцца даследаванні 1960—1970-х, а там КПЗБ падаецца так, нібы ўся яе дзейнасць будавалася выключна на загадах з Масквы. Між тым я перакананы, што гісторыя КПЗБ — гэта частка гісторыі нацыянальна-вызвольнага руху. КПЗБоўцы былі людзі пераважна вельмі сумленныя, але падманутыя. І яны паплаціліся за гэта...»

КПЗБ нельга называць нацыянальнай партыяй, кажа гісторык. Але спробы стварыць у 1936-м супольны Народны Фронт з Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй паказваюць, што заходнебеларускія камуністы адчувалі сябе часткай нацыянальных сілаў. Мо таму ім пасля так не давяралі ў СССР?

Нават Уладзімір Царук, КПЗБовец, а пасля легендарны партызанскі камандзір «Дзядзя Валодзя», пасля вайны быў толькі раённым начальнікам. (Параўнаем з партызанамі Мазуравым і Машэравым.)

«У КПЗБ былі людзі нашмат больш адукаваныя, падрыхтаваныя да дзяржаўнай дзейнасці, як Мікалай Арэхва, Фані Цыгельніцкая, Максім Танк, Валянцін Таўлай, Урбановіч, Шыдлоўскі, але сімвалам КПЗБ стаў Прытыцкі. Ягоная добрападзейнасць не выклікала сумневаў у Масквы», — адзначае А.Вашкевіч.

На самыя вяршыні ўлады ўзняўся адзін Прытыцкі. Старшыня Мінаблвыканкама, Камітэта дзяржкантролю, віцэ-прэм'ер, спікер палаты — так перакладаюцца на сённяшнюю мову яго пасады. Батрацкі сын з трохкласнай школай за плячыма стаў чыноўнікам узроўню Батуры, Якабсона, Сямашкі.

### Правакатараў стралялі дзясяткамі

У іерархіі КПЗБ Прытыцкі не займаў заўважнай пазіцыі, адзначае А.Вашкевіч. Ён кіраваў Слонімскім райкамам, што складаўся з 10—15 вясковых ячэек. Адседзеў за камуністычную дзейнасць, як многія тады. «Сходзіў» у Савецкі Саюз — вучыўся ў партшколе ў Мінску. У 1935 вярнуўся на радзіму — шчасліва паспеў да 1937-га, калі ўцекачоў у савецкі рай пачалі расстрэльваць у Курапатах.

Учынак Прытыцкага не быў выключным. «Не адзін дзясятак правакатараў, сапраўдных і ўяўных, загінуў у тыя часы, — кажа А.Вашкевіч. — Напрыклад, у 1928 Сямён Клінцэвіч забівае Міхася Гурына, які сведчыў супраць Тарашкевіча і Рак-Міхайлоўскага ў судзе, а да таго, насуперак дырэктывам Масквы, хацеў узняць у Заходняй Беларусі ўзброенае паўстанне. Клінцэвіч застрэліў яго проста на вуліцы ў Вільні.

Тадэвуш Варанішча са Смаргоншчыны, забіўшы правакатара, схаваўся аж у Аргенціне, ваяваў у Іспаніі на баку рэспубліканцаў, удзельнічаў у французскім Супраціўленні, у Беларусь вярнуўся толькі пасля вайны — і спакойна тут дажыў.

У 1927 забілі правакатара Уладзімір Царук і Павал Жалезняковіч. Ад 1927 і да 1939 — 12 гадоў — яны сядзелі ў турме. Царук пасля вайны стаў раённым начальнікам, Жалезняковіч — старшынёй калгаса...»



У 1939-м Заходняй Беларусі прапанавалі іншых лідараў. КПЗБ была забытая на дзесяцігоддзі.

«Дзейнасць баевікоў КПЗБ была адказам на дэпрэсіўную сітуацыю ў беларускай вёсцы, — кажа А.Вашкевіч. — Беззямелле, немагчымасць атрымаць адукацыю, п'янства, бойкі, страшныя ў сваёй жорсткасці... Ці інспіравала польская ўлада тыя бойкі, каб адцягваць моладзь ад палітычнай актыўнасці? Невядома. Але за забойства падчас бойкі давалі меншы турэмны тэрмін, чым за камуністычную дзейнасць».

### Стральчук застаўся жывы

Кім былі правакатары? Па-рознаму, кажа гісторык. Гэта мог быць, як Гурын, чалавек, які пайшоў супраць «лініі партыі». Гэта мог быць абылганы актывіст. Паліцыя выстройвала такія канструкцыі, каб найчысцейшых, найсумленнейшых хлопцаў выставіць здраднікамі. Напрыклад, усіх схапіць, а аднаго выпусціць з турмы — колькі такіх пагінула ад рук былых таварышаў. Правакатарам мог стаць той, каго паліцыя катаваннямі і шантажом змусіла да сексоцтва. У польскай паліцыі былі і спецыялісты па «ручной працы», і псіхолагі былі добрыя.

Былі і такія, як Якуб Стральчук, — прафесійныя правакатары, якія за грошы працавалі на спецслужбы ў апазіцыйным асяродку.

Стральчук быў родам з Бельскага павета, Прытыцкі — з Сакольскага, з вёскі Гаркавічы. Гэта адзін праваслаўны рэгіён — той самы, дзе Гарадок, Супрасль, Бераставіца. Дэфензіва завербавала Стральчука падчас службы ў польскім войску. Па заданні спецслужбаў уступіў пасля ў камсамол, стаў сакратаром акружкама, увайшоў у ЦК, зладзіў некалькі яскравых моладзевых акцый пратэсту, каб заваяваць давер. Стральчук увесь час скардзіўся на сачэнне паліцыі, прасіў перавесці яго ў іншую акругу — і такім чынам займеў максімальна шырокія звесткі пра структуру і сяброў КПЗБ, ТБШ.

### Прыдаўся і нацыстам

Пасля пачаліся масавыя арышты. Падазрэнні адносна Стральчука раслі. Ён пачаў выступаць сведкам на судах, жыў пад аховай паліцыі. Ліквідаваць яго можна было, пісаў ва ўспамінах Прытыцкі, толькі ў судзе.

Цікава, што Прытыцкі не быў класічным баевіком. Ён, паводле ўспамінаў, нават не ўмеў да таго страляць з пісталета. Таму напярэдадні атрымаў зброю і трэніраваўся ў лесе.

Неспрактыкаванасць, дый шчэ хваляванне, адыгралі сваю ролю: Стральчук не загінуў пасля стралаў Прытыцкага. Хадзілі пра яго пасля розныя чуткі: што ён меў бронекамізэльку, што звар'яцеў ад кулі ў галаве і г.д. Насамрэч Стральчука вылечылі і скіравалі на захад Польшчы, у Познань, «працаваць» сярод рабочых. Калі прыйшлі нацысты, ён перайшоў на службу да іх, вярнуўся ў Заходнюю Беларусь і пачаў здаваць актывістаў КПЗБ ужо немцам. А памёр Стральчук на эміграцыі, аж у Амерыцы.

А Прытыцкі ўсяго праз гадоў дзесяць пасля свайго замаху ледзь сам не стаў ахвярай падобнага тэракта. Калі ён быў сакратаром Гродзенскага абкама Кампартыі СССР, былі цам бы за спробу яго забіць у 1940-я ў Гродне судзілі некалькі маладых людзей, якія жылі недалёка ад яго дома па вуліцы 17 Верасня.

### Ці спачувалі б Прытыцкаму сёння?

Тэракт Прытыцкага прыйшоўся КПЗБ дарэчы. Кампанія «Прытыцкі мусіць жыць!» разам са спробай стварэння Народнага Фронту была адным з галоўных кірункаў дзейнасці партыі ў 1936-м. Кіраўнікі КПЗБ любымі спосабамі імкнуліся адцягнуць хуткую ліквідацыю партыі па рашэнні Сталіна, прыкметы якой адчувалі...

На прыкладзе Прытыцкага можна пабачыць, што этычныя нормы не мяняюцца. І ў царскай Расіі, і пры Польшчы грамадства лічыла непрыстойным і вартым асуджэння, калі паліцыя засылае свайго агента ў шэрагі рэвалюцыянераў. Грамадства часта было на баку забойцаў агента, кажа гісторык Анатоль Сідарэвіч.

У сённяшнія часы цяжка ўявіць акцыі салідарнасці з забойцам, але пагарджаюць агентамі паранейшаму.

### КПЗБоўцы не прыехалі на пахаванне

Вуліца Прытыцкага ў Мінску — адна з нешматлікіх у беларускай сталіцы, названая канцэптуальна. Гэта магістральны шлях з Заходняй Беларусі.

Аб Прытыцкім знялі мастацкі фільм «Чырвонае лісце»...

Ці быў Прытыцкі, адзіны «заходнік» у вышэйшых эшалонах улады ў пасляваенныя часы, нацыянал-камуністам? «Калі да Прытыцкага прыходзілі з просьбамі выступіць дзесьці ў абарону беларускай мовы, ён казаў: галоўнае, каб у беларусаў быў хлеб», — успамінае гісторык культуры Арсень Ліс. Хоць сам Прытыцкі да канца жыцця па-расейску гаварыць так і не навучыўся: лупіў на трасянцы.

«Іна Карпюк расказвала, што ветэраны КПЗБ не паехалі на пахаванне Прытыцкага — крыўдавалі, што не памагаў, як стаў пры ўладзе. Разам з тым, менавіта Прытыцкі паспрыяў, каб будучага пісьменніка, ветэрана Аляксея Карпюка, у якога пасля ранення на вайне літаральна асколкі тарчалі са спіны, паклалі ў канцы 1940-х у добры шпіталь, — кажа А.Вашкевіч. — Значыць, Прытыцкі не быў канчатковым камуністычным дагматыкам. Быў тым, чаго патрабавала ад яго савецкая сістэма».

### Неспавядзімыя шляхі

«Парадаксальна, але Прытыцкі ўратаваў сабе жыццё дзякуючы таму, што сядзеў у польскай турме, — працягвае А.Сідарэвіч. — Разгром КПЗБ ён правёў за кратамі. Таму ён выйшаў чыстым перад савецкай уладай». Тым часам ягоныя паплечнікі, якія на той час былі «ў спакоі і бяспецы» ў краіне сваіх мрояў, СССР, былі расстраляны ў Курапатах.

КПЗБ, як і Кампартыя Польшчы, была ліквідаваная па рашэнні Сталіна ў 1938. Матывавалася гэта неабходнасцю «ачышчэння ад інфільтрацыі агентамі польскай выведкі». Але на справе гэта была проста сталінская палітыка кіравання праз тэрор. Выжыла няшмат. У большасці тыя, хто знаходзіўся ў польскіх турмах або займаўся непасрэднай шпіёнскай ці агентурнай дзейнасцю на карысць НКВД, як будучы кіраўнік камуністычнай Польшчы Берут.

Казалі, што Прытыцкага па вызваленні з турмы ў 1939-м самалётам павезлі ў Крэмль, да Сталіна на прыём.

**Сяргей Мікулевіч**

## БІЯТЛОН

### Чэмпіянат свету ў Чэхіі

**Ад 7 да 17 лютага ў Нове-Места**, што недалёка ад Прагі, пройдзе Чэмпіянат свету па біятлоне. Нашы спадзяванні звязаныя з лідарам жаночай зборнай Дар'яй Домрачавай. Расклад гонак:

**7 лютага:** змешаная эстафета (19:30).
**9 лютага:** спрынт у жанчын (15:00) і мужчын (17:15).
**10 лютага:** пагоня ў жанчын (15:00) і мужчын (17:15).
**13 лютага:** індывідуальная гонка ў жанчын (19:15).
**14 лютага:** індывідуальная гонка ў мужчын (19:15).
**15 лютага:** эстафета (жанчыны) (19:15).
**16 лютага:** эстафета (мужчыны) (17:15).
**17 лютага:** масстарты ў жанчын (14:00) і мужчын (17:00).
Трансляцыі на «Беларусь-2».

## ХАКЕЙ

### Алімпійскі адбор

**Ад 7 да 10 лютага** ў Даніі пройдзе хакейны адбор на Алімпіяду ў Сочы. Расклад гульняў зборнай Беларусі:

**7 лютага:** Беларусь — Славенія (пачатак а 18-й).
**8 лютага:** Беларусь — Украіна (пачатак а 19-й).
**10 лютага:** Беларусь — Данія (пачатак а 20-й).
Трансляцыі на «Беларусь-2».

## КАНЦЭРТЫ

### Трыб'ют Neuro Dubel

**7 лютага а 19-й у «Гудвіне» (пр.Незалежнасці, 19)** — канцэрт-трыб'ют Neuro Dubel. Бяруць удзел «Палац», IQ48, «Йо-йо», The UNB, Blagi Mat.

### «Ляпіс»

**8 і 9 лютага ў Санкт-Пецярбургу** — канцэрты гурту «Ляпіс Трубяцкой». З Беларусі арганізуюцца аўтобусныя туры.

### Цыганскі раманс

**11 лютага а 19-й на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі (Крапоткіна, 44)** — вечар стрададаўняга салоннага цыганскага рамансу.

### B:N

**13 лютага а 19-й у Малой зале к/з Мінск** — гурт :B:N: з акустычным канцэртам для ўсіх закаханых!

### Разбітае сэрца пацана

**14 лютага а 19-й у клубе «Цэнтр» (Кастрычніцкая пл., 1)** — «Разбітае сэрца пацана»з вялікім сольным канцэртам.

### J-Морс

**14 лютага а 19-й у Re:public (Прытыцкага, 62)** — канцэрт гурту «J-Морс».

### Ірландская вечарына

**17 лютага а 19-й у «Лісінай нары» (Каліноўскага, 32)** — ірландская кейлі-вечарына. Бяруць удзел гурты Ejrut і Jolly Green.



### Віктар Шалкевіч

**9 лютага а 19-й у ДК імя Шарко (Уральская, 3)** — канцэрт Віктара Шалкевіча.



# БАТЭ — «Фенербахчэ»



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**14 лютага ў Гродне** БАТЭ згуляе першы матч 1/16 фіналу Лігі Еўропы. Супернік — турэцкі «Фенербахчэ». Гуляць будуць у Гродне, бо стадыён «Дынама» закрыты на рэканструкцыю, а барысаўскі яшчэ не пабудавалі. Пачатак а 21 гадзіне. Будзе трансляцыя на «Беларусь-2».
«Фенербахчэ» — славуты стамбульскі клуб, 18-разовы чэмпіён Турцыі. Каманду яшчэ часам называюць «жоўтыя канарэйкі». За «Фенербахчэ» заўзеў Ататцюрк, бацька турэцкай рэспублікі.

## ВЫСТАВЫ

### Мае праведнікі

**Да 3 сакавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе фотавыстава Анатоля Клешчука «Мае праведнікі», прысвечаная беларусам, якія ў гады Другой сусветнай вайны ратавалі габрэяў ад фашыстаў.

### MONEYкеншчыцы. Iznanka

**Да 13 лютага ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** працуе выстава аўтарскіх лялек Ірыны Ханунік-Рамбальскай. Лялькі выкананыя з пластыку, распісаныя акрылам і алеем. Пры стварэнні працаў выкарыстоўваліся антыкварныя рэчы, вінтажныя тканіны і карункі…

### Малюнкі Гофмана

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (Акадэмічная, 5) да 24 лютага** працуе выстава «Малюнкі Гофмана». Мінскі глядач упершыню пазнаёміцца з графічнымі работамі па матывах казак класіка нямецкай літаратуры.

### «Паўлінка» — 100 гадоў на сцэне

**Да 25 лютага ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав.Музычны, 5)** працуе выстава «Паўлінка» — 100 гадоў на сцэне». На экспазіцыі прадстаўлены афішы, праграмы, эскізы, макеты дэкарацый і касцюмы да спектакля, а таксама асабістыя рэчы Паўліны Мядзёлкі, першай выканаўцы ролі Паўлінкі.

## ТЭАТРЫ

### 8 лютага

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Лялек** — «Гісторыя аднаго горада»
**Оперы і балета** — «Манон Леско»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Вечар»

### 9 лютага

**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Лялек** — «Марозка»
**Оперы і балета** — «Травіята»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядах»

### 10 лютага

**Лялек** — «Жахлівы спадар Ау»
**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Оперы і балета** — «Манон Леско»
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік»)
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядах»

### 11 лютага

**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»

### 12 лютага

**Лялек** — «Асцярожна, свіння!»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»

### 13 лютага

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Оперы і балета** — «Манон Леско»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Юнага гледача** — «Пан міністар»

### 14 лютага

**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 15 лютага

**Лялек** — «Шоўк»
**Оперы і балета** — «Трыстан і Ізольда. Серэнада. Балеро»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»

### 16 лютага

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Оперы і балета** — «Іоланта»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

## КІНО

### Мінская прастытутка для Аль Пачына

**Рэальныя дзецюкі** (Stand Up Guys)
ЗША, 2012, каляровы, 94 хв.
**Рэжысёр:** Фішэр Стывенс
**Ролі выконваюць:** Аль Пачына, Крыстафер Уокен, Алан Аркін, Джуліана Маргуліс, Ванэса Ферліта, Кэтрын Уінік
**Жанр:** Крымінальная трагікамедыя
**Адзнака:** 5,5 (з 10)

Састарэлы крымінальнік сустракае свайго сябра з турмы. Герою загадалі забіць вызваленага на працягу сутак. Тэрмін дастатковы, каб усё сур'ёзна абдумаць і адраўцаваць і адарвацца напоўніцу.
Фільм Стывена Фішэра — крымінальная трагікамедыя для падлеткаў пенсійнага веку. Галоўны козыр карціны — падбор акцёраў, якія здольныя навесці шораху дзе заўгодна. Аль Пачына, Крыстафер Уокен і Алан Аркін граюць трох сівых мушкецёраў, якія крадуць машыны ў мафіёзі, швэндаюцца па бардэлях і ўскрываюць лаўкі, як кансервы. Толькі смерць ужо дыхае ў патыліцу.
Стужка годна задуманая, але сцэнарысты пабаяліся глыбока капаць. Нягледзячы на гэта, карціна мае процьму дасціпных эпізодаў, у адным з якіх Аль Пачына нават сустракаецца з мінскай прастытуткай Аксанай. Дзеля яе вабнотаў героі нават рабуюць аптэку, каб нажэрціся віягры. Але падступная беларуска аддае сэрца лысаватаму Алану Аркіну.

**Андрэй Расінскі**



# Беларусы ў сэкс-шопе

Якія інтымныя тавары **найчасцей набываюць** нашы суайчыннікі?

Колькасць крамаў з інтымнымі таварамі ў Мінску ўжо дасягнула двух дзясяткаў. У гэтыя салоны, уваход у якія звычайна сарамліва прыкрыты фіранкай, многія беларусы не заходзілі ніколі ў жыцці. Якая прадукцыя сэкс-шопаў карыстаецца папулярнасцю і хто з наведнікаў самы смелы? Пра гэта гутарым з прадавачкамі мінскіх сэкс-шопаў.




### Усё пакажуць, усяму навучаць

Як уладкавацца на працу ў сэкс-шоп? «Не трэба нейкіх экстраардынарных здольнасцяў, — расказвае Марына. — Усё там пакажуць і ўсяму навучаць. Адзінае, што трэба ўмець, — спакойна і кампетэнтна размаўляць пра сэкс. Прадавец, які бянтэжыцца і чырванее, не выклікае даверу. Ну і пачуццё гумару не зашкодзіць: жартаўнікоў заходзіць шмат. Пытанні кшталту: «А вы самі спрабавалі?», «А можна памераць?» — гэта норма».

Было сумоўе, навучанне і выпрабавальны тэрмін, расказвае яна. «На сумоўі прасілі расказаць пра сябе. Быў цікавы момант, калі мне далі вібратар і сказалі: «Прадай мне яго», — кажа Марына.

Навучанне ў кожнай краме праходзіць па-свойму. «Вучаць каля месяца, — працягвае яна. — Спачатку зусім няясна, што для чаго, але хутка разбіраешся. Трэба ведаць усё да тонкасцяў, бо кліенты звычайна задаюць шмат пытанняў. Акрамя вібратараў і змазак у нас мала пра што чулі».

Прадаўцоў-жанчын больш, дый яны спакайней успрымаюць працу. «Хоць я першыя два тыдні не магла есці на працоўным месцы, — смяецца Марына. — Бо сядзіш і бачыш гэты «кілбасны цэх» на вітрынах...»

### Прыходзяць па адно, а сыходзяць з іншым

Мала хто ведае, што яму насамрэч патрэбна, кажа прадавачка. «Тавар абіраем разам. Часта бывае, спачатку пытаюць пра адно, а ў выніку сыходзяць з абсалютна іншым прадметам. І не заўсёды з адным. За дзень да нас завітвае чалавек дзесяць-пятнаццаць». Часта бяруць штосьці і не сабе — для жартаў ці ў падарунак. Найчасцей вібратары.




Ёсць сталыя кліенты, некаторыя шукаюць менавіта «свайго» прадаўца і прыходзяць у яго змену. Іншыя шукаюць і дапамогі ў інтымным жыцці. На гэты выпадак на прылаўку ляжаць візітоўкі з нумарамі сэксолагаў. «Фантазіі ёсць у кожнага, але мала хто дазваляе сабе іх рэалізаваць. Сэкс-шоп — гэта не вычварэнства», — упэўненая прадавачка Алеся.

### Пары бяруць вібратары і наручнікі

Часцей за ўсё ў краму прыходзяць парамі. «Бывае, нашыя цацкі ратуюць адносіны. Разнастайнасць у сэксуальным жыцці дапамагае калі не выратаваць іх, дык хоць трошкі працягнуць. Тут няма чагосьці агіднага. Пары звычайна бяруць вібратары і наручнікі. Змазкі таксама бяруць, але яны прадаюцца ў кожным супермаркеце», — адзначае Алеся.

### Мужчыны прыходзяць натхніцца

«Мужчыны, бывае, прыходзяць проста паглядзець, натхніцца, можа, памацаць нешта. Стаяць адны, з ганарлівым выглядам, нібы нешта выбіраюць, а вочкі бегаюць-бегаюць! — кажа Марына. — У іх самае папулярнае — змазкі і спрэі для працягу палавога акта. У мужчын стэрэатыпнае меркаванне, што сэкс павінен быць як мага даўжэйшым. Але многія жанчыны пратэстуюць і лічаць інакш».

Прыходзяць і людзі сталага веку. «Рознае бяруць. Бяруць і для маладых каханак, і для жанчын свайго веку. Адзін дзядуля браў у мяне вібратар памеру большага за сярэдні».

### Ці прынцыповы колер?

«Жанчыны — гэта цуд, — захапляецца Алеся. — Большасць наведніц — у веку да сарака гадоў. Заходзяць з такім сур'ёзным тварам, доўга абіраюць нешта, але запытаць, бывае, так і не адважваюцца. І сыходзяць... Многія доўга не могуць вымавіць слова «чэлес». Чаго я толькі не наслухалася: «орган любові», «мужчынская прылада», проста «ён»... Але звычайна жанчыны смялейшыя за мужчын. Часцей за ўсё яны бяруць бялізну, масажныя свечкі ну і таксама змазкі. А ўвогуле жанчыны вельмі разумныя. Калі прыходзяць парамі, дык бяруць фалаімітатары ці вібратары меншыя за памер, які мае іх мужчына, каб не пакрыўдзіць».

### Замежнікі не камплексуюць

Хто паводзіцца ў сэкс-шопе ўпэўнена, як у краме гародніны, — дык гэта замежнікі, пагаджаюцца прадавачкі. «Ніякай закамплексаванасці. Пайшоў у краму па хлеб, чаму б па дарозе і вібратар не прыкупіць. Быў у мяне адзін такі: прыйшоў з пакункам, дзе ляжалі прадукты, набыў наручнікі з вібратарам, кінуў наверх і пайшоў».

А ці часта трапляюцца неадэкватныя купцы? «Гэта рэдкасць, — кажа Марына. — Хіба тупыя ці сэксуальназаклапочаныя. Сур'ёзных прэцэдэнтаў ніколі не было. Беларусы вельмі закамплексаваныя. Для іх падумаць пра сэкс-шоп ці зазірнуць за заслону, якая заўсёды ахінае такія крамы, — вялікая псіхалагічная праблема. Такое адчуванне, што ў нас яшчэ з савецкіх часоў ідзе прапаганда, і сэксу ў нас няма і быць не можа».

**Вольга Гарапучык**

---

**Аўто**

## Кітайска-беларускія легкавікі будуць прадаваць за $12 990

Продажы **пачнуцца з лютага**.






Легкавікі беларускай зборкі Geely з'явяцца ў продажы ўжо ў гэтым месяцы, заявіў міністр прамысловасці Дзмітрый Кацярыніч. Па яго словах, седан сярэдняга класа будзе каштаваць $12 990. Продажы пачне адно з мінскіх прадпрыемстваў Міністэрства прамысловасці. Па словах міністра, ужо атрымана шмат заявак на набыццё Geely. Кацярыніч спадзяецца, што аўтамабіль будзе канкурэнтаздольны на рынку Расіі і Казахстана.

**БелаПАН**

---

**Тэхналогіі**

## Зрабі свой мабільнік бел-чырвона-белым

За апошні месяц беларускія праграмісты стварылі адразу некалькі цікавых і карысных бясплатных праграм для смартфонаў з аперацыйнай сістэмай Андроід.

### Тэст па правілах дарожнага руху па-беларуску (by.pdd.tasks.test)

Папулярная праграма, якую распрацоўвае кампанія «Новы паварот», здабыла і беларускамоўную версію. У тэстах сустракаецца 1200 задач, усе яны маюць расійскі і беларускі пераклады, між якімі можна пераключыцца ў настройках.

### Belarusland (pplware.b360)

Гэта набор з дзесяці 360° панарам прыгожых мясцін Беларусі. На шасці панарамах мінскія краявіды — «Мінск-Арэна», Нацыянальная бібліятэка, Плошча Перамогі, Прывакзальная плошча, вуліца Леніна, цырк. Астатнія чатыры присвечаныя рэгіёнам — Нясвіж, Мір, Ліда, Гомель. У якасці бонуса ў праграму ўбудаваныя здымкі 17 гістарычных будынкаў Беларусі — з Сар'і, Косава, Полацка, Барысава.

### Бел-чырвона-белыя шпалеры (solavento.belarusflag)

Пасля ўстаноўкі гэтай праграмы на экране мабільніка з'явяцца трохмерныя шпалеры з колерамі нацыянальнага беларускага сцяга. Віртуальную рэвалюцыю зладзіў 28-гадовы выкладчык тэхнічных дысцыплін Аляксей, які за некалькі вечароў з дапамогай сябра напісаў гэты просты бясплатны дадатак.

**ЯМ**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**2 лютага ў каталіцкай парафіі ў Жодзіне апостальскім нунцыям Ватыкана Клаўдыё Гуджэроці быў пасвечаны ў святары айцец Віталь Даніловіч. У часе высвячэння новы святар ляжыць ніцма, крыжам на падлозе перад алтаром у знак пакоры і самаадрачэння.**



**Сурок Філ прадказаў раннюю вясну. 2 лютага штогод у мястэчку Панксэтаўні ў Пенсільваніі сурок прадказвае, ці хуткай будзе вясна. Калі ён не бачыць свайго ценю — то так, калі ж бачыць — то зіме быць яшчэ шэсць тыдняў. Першае прадказанне Філа адбылося ў 1887.**



**Старэнькі Фідэль Кастра з'явіўся перад кубінцамі ўпершыню за доўгі час. Фідэль узяў удзел у галасаванні на выбарах у парламент Кубы.**



INTEX-PRESS

**Торт «Бедны яўрэй» прадаюць у Баранавічах.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Мінскі завод «Інтэграл» пачне выпускаць беларускі iPad. Яблык будзе заклеены выяваю надгрызенай бульбіны, а камп будзе называцца іБуль. А завод «Крышталь» падхапіў ідэю і выпусціў гарэлку «іБуль-Буль».

* * *

Пяцігадовая дзяўчынка сабрала свае любімыя цацкі і накіравалася да дзвярэй. Там яе сустракае бацька:

— Ты куды сабралася, дачушка?

— Мама ўвесь час сварыцца на мяне. Я вырашыла вярнуцца да бусла.

* * *

Падслуханае. Жанчына ў трамваі пра дачку: «Я патом паняла, что ана вся в меня. Еслі не спішэт — то не сдаст. Как эта можна вывучыць?»

* * *

У Саладухі на тэлефоне замест «зорачкі» яго партрэт.

***

На дні нараджэння ў Ярмошынай госці паднялі бакалы баршчу.

* * *

Жонка прачытала допісы мужа ў Facebook і лайкнула яго патэльняй па галаве.

* * *

Хто ўкраў лісапету каля ларка — прыйдзі і забяры насос, ён мне не трэба, скаціна.

* * *

«Дамскім тролінгам» у дачыненні да суверэннай Беларусі назваў прэс-сакратар Лукашэнкі заяву каралевы Нідэрландаў Беатрыкс пра адрачэнне ад трона.

* * *

Юрый Чыж, аплочваючы тэлефонныя рахункі, выпадкова купіў аднаго з сотавых аператараў краіны.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Магілёў.** Жыхары мястэчка Горбава звярнуліся ў губернскае ўпраўленне з просьбай зацвердзіць таварыства цвярозасці.

**«НН». №6. 1913.**

**Трыумф аўтакратыі.** Мясцовыя выбары яшчэ не адбыліся, але ўжо цяпер вымалёўваецца іх невясёлы фінал. У 93% акругаў на адно месца прэтэндуе адзін кандыдат. Прэтэндэнты ад дэмакратычнай супольнасці — партыйнай і непартыйнай — ідуць толькі ў 3% акругаў. Грамадства ўспрымае безальтэрнатыўнасць выбараў як норму.

**«НН». №5. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8070. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 05.02.2013.
Замова №680.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13005